
У Жыровічы ➔3

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714


Родам з Лявіцкіх ➔5

http://niva.bialystok.pl
redakcja@niva.bialystok.pl

№ 27 (3295) Год LXIV | Беласток, 7 ліпеня 2019 г. | Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)

# Не для смуроднай гумы

Тэкст і фота **Аляксея МАРОЗА**

Суполка Bella28Q са Шлёнска хоча побач Дубіч-Асочных збудаваць прадпрыемства піролізу гумы, у галоўным з аўтамабільных шын, на прыватным участку, на якім ужо зараз знаходзіцца адрамантаваны будынак, перароблены з сельскагаспадарчай аборы. Жыхары Дубіч і Хітрай, у якой напрамку мела б быць размешчана планаванае прадпрыемства, а таксама жыхары суседніх вёсак і Гайнаўкі сталі пратэставаць супраць згаданай інвестыцыі. Сабралі яны подпісы пад петыцыяй супраць будовы прадпрыемства, у якім плануецца піроліз ажно 14 тысяч тон гумы ў год. Мела б гэта адбывацца непадалёк ад вясковых жылых дамоў і ў чатырох кіламетрах ад Гайнаўкі і Белавежскай пушчы, у напрамку якіх найчасцей вее вецер з захаду, ад Хітрай. 13 чэрвеня ў святліцы ў Хітрай быў праведзены адміністрацыйны разбор наконт планаванай будовы прадпрыемства піролізу гумы, які па патрабаванні мясцовага насельніцтва арганізавалі чыноўнікі Гміннай управы ў Гайнаўцы. Хаця на разбор запрошаны былі прадстаўнікі суполкі Bella28Q, аднак не паявіліся яны на сустрэчы, каб патлумачыць мясцовым жыхарам як прадпрыемства будзе забяспечвацца ад адмоўнага ўздзеяння працэсу піролізу гумы на навакольнае асяроддзе — на жыхароў суседніх мясцовасцей, на сельскую гаспадарку, на Белавежскую пушчу. Пытанні ў адрас інвестара запісваліся чыноўнікамі, а войт Гайнаўскай гміны Люцына Смактуновіч паінфармавала, што будуць яны перададзены суполцы Bella28Q.

Адміністрацыйны разбор у Хітрай вёў намеснік кіраўніка Аддзялення інвестыцыі, прасторавага планавання і гаспадаркі зямлёй Гміннай управы ў Гайнаўцы Андрэй Галёнка. Паведаміў ён пра захады суполкі Bella28Q па адкрыцці прадпрыемства піролізу гумы са зношаных аўташын каля Дубіч-Асочных і пра рапарт уздзеяння інвестыцыі на навакольнае асяроддзе, які зараз папаўняецца па патрабаванні Павятовай санэпідстанцыі ў Гайнаўцы і Рэгіянальнай дырэкцыі аховы асяроддзя ў Беластоку. Андрэй Галёнка сказаў таксама, што дадатковага аналізу не патрабавалі Польскія воды, якія, між іншым, аналізуюць уздзеянне прадпрыемстваў на ваду ў рэках і іншых вадаёмах.

— Чаму прадпрыемства піролізу гумы паўстае акурат тут, непадалёк жылых дамоў і Белавежскай пушчы? — пытала ў час адміністрацыйнага разбору солтыс Дубіч-Асочных **Барбара Галёнка**.

Па-за сустрэчай солтыс расказала мне пра гісторыю закалоту:

— Мы яшчэ зімой даведаліся, што побач нашых дамоў і гаспадарак інвестар са Шлёнска хоча адкрыць прадпрыемства піролізу гумы. Калі даведаліся, што інвестар такое прадпрыемства хацеў адкрыць на Шлёнску, але з-за пратэстаў тамашняга насельніцтва не атрымаў згоды на будову, пачалі мы апасацца за наша здароўе. Няма ў нас адпаведнай якасці дарог, якімі можна было б на вялікіх грузавых машынах вазіць 14 тысяч тон зношаных аўтамабільных шын у год для піролізу. Быў нядаўна мадэрнізаваны чыгуначны пуць з Гайнаўкі ў Бельск-Падляшскі, які праходзіць каля нашай вёскі, але прыпынак тут прыстасаваны толькі да пасажырскага руху і няма ніякага прыстасавання для перавалкі грузаў, а тым болей так вялікай колькасці шын. Жыхары Дубіч-Асочных і суседніх мясцовасцей масава ставяць подпісы пад петыцыяй супраць узвядзенню каля нашых дамоў прадпрыемства піролізу гумы. Нядаўна мы ўзнавілі збор подпісаў і цяпер акцыя супраціву набрала вельмі масавы характар. У Дубічах, якіх з'яўляюся солтысам, у Хітрай і ўва ўсіх суседніх вёсках людзі сваімі подпісамі рашуча выказаліся супраць планаванай інвестыцыі. Масава падпісваюцца таксама жыхары Гайнаўкі, у якую адсюль усяго чатыры кіламетры. Сабралі мы больш за паўтары тысячы подпісаў на паперы і 970 подпісаў па інтэрнэце. Людзі надалей падпісваюцца супраць будовы прадпрыемства піролізу гумы побач Белавежскай пушчы, якой тэрыторыя лічыцца «Зялёнымі лёгкімі Еўропы». Супраць адкрыцця ў нас прадпрыемства піролізу гумы прагаласавала Рада гміны Гайнаўка. Намаганні спыніць інвестыцыю падтрымалі таксама Навуковая рада Белавежскага нацыянальнага парку, Дзяржаўныя лясы, экалагічныя няўрадавыя арганізацыі WWF і Greenpeace Polska. Подпісы мы лічым ужо ў тысячах і ёсць у нас надзея, што такі вялікі супраціў мясцовага насельніцтва спрычыніцца да таго, што гэтае шкоднае для нас і нашага асяроддзя прадпрыемства піролізу гумы не будзе ў нас адкрытае.





Войт Гайнаўскай гміны Люцына Смактуновіч (стаіць)

Супраць будовы прадпрыемства піролізу гумы паміж Дубічамі-Асочнымі і Хітрай выказаліся таксама самаўрадаўцы з Рады горада Гайнаўкі і Рады Гайнаўскага павета.

— Чаму інвестар пазбягае грамадскіх кансультацый? Мінае паўгода як пачаў старанні адкрыць у нас прадпрыемства піролізу гумы і за ўвесь гэты час не праявіў ахвоты спаткацца з мясцовым насельніцтвам і растлумачыць нам пра планаваную дзейнасць гэтага прадпрыемства, — сказаў у пачатку адміністрацыйнага разбору гміны радны з Дубіч-Асочных **Віктар Грыгарук**, які кантактаваў з інвестарам раней. Аказваецца, што інвестар пазбягае цяпер кантактаў з прадстаўнікамі мясцовага насельніцтва і масмедыяў.

— Прадпрыемства піролізу гумы не схацелі ў сябе жыхары прамысловага Шлёнска, тады інвестар хоча яго збудаваць у «Зялёных лёгкіх Еўропы», — сказаў **Якуб Рок** з Фонду Дзікая Польшча.

Заявіў ён, што інвестар выканаў аналіз уздзеяння прадпрыемства на навакольнае асяроддзе вельмі павярхоўна і не паінфармаваў, куды будзе ён аддаваць аліву і іншыя кампаненты, што паўстануць у працэсе піролізу гумы, якіх нельга складваць на месцы. Якуб Рок паінфармаваў таксама, што патрэбная інвентарызацыя птушак і звярыны ў наваколлі планаванай інвестыцыі і пытаў, дзе будзе склад шын, якія не памесцяцца ў будынку, які зараз знаходзіцца на месцы інвестыцыі. **Марта Грунлянд** з Greenpeace Polska заявіла, што інвестар у сваім рапарце не даказаў, што піроліз гумы не будзе забруджваць навакольнага асяроддзя і не прадставіў як забяспечаны будзе гэты працэс у выпадку аварыі, каб не забруджваліся паветра і вада каля Белавежскай пушчы — аб'екта Сусветнай спадчыны ЮНЕСКА.

— У рапарце ўздзеяння прадпрыемства на асяроддзе напісана, што інвестыцыя будзе размешчана непадалёк ад аўтастрады A1 (*пралягае яна з поўначы на поўдзень краіны — ад Балтыйскага мора да граніцы з Чэхіяй — рэд.*). Калі так пішуць, я ставлю пытанне: ці асобы, якія працавалі над рапартам былі тут на месцы і бачылі, дзе мае быць узведзена прадпрыемства? Нельга ўстанавіць кантакт з інвестарам і спытаць яго якую колькасць гумовых шын мае намер перарабляць каля нас? — заявіў солтыс вёскі Хітрая **Васіль Герман**.

Солтыс Барка **Каміля Пліс** пытала, ці можна будзе яшчэ пераканаць Польскія воды, каб зацікавіліся магчымым уздзеяннем прадпрыемства піролізу гумы на навакольныя воды і асяроддзе. Некалькі асоб звяртала ўвагу на інфармацыю ў рапарце, што прадпрыемства мае расходаваць толькі 72 літры вады ў дзень і разважалі, ці гэта памылка, ці можа такая колькасць прадстаўлена з-за іншых прычын.

— Трэба, каб быў падрыхтаваны гідралагічны рапарт наконт уздзеяння прадпрыемства піролізу гумы на воды навакольнага асяроддзя, маючы на ўвазе, што можа быць аварыя, а недалёка ад планаванай інвестыцыі плыве рака Лясная, — сказала **Эва Мароз-Кэчынская** з Новаберазова.

— Што будзе з адкідамі, якія паўстануць у працэсе піролізу гумы. Дзе будуць іх складваць і куды адпраўляць? — пытаў **Анатоль Ігнацюк** з Новаберазова.

— Хто скарыстае на гэтай інвестыцыі, якая можа знішчыць навакольнае асяроддзе? Няма тут інвестара і мы ставім пытанні, быццам бы размаўлялі з духам, — заявіў **Ян Мордань**, родам з Хітрай, які зараз жыве ў Гацьках.

чытайце ☞ 10



# Гарачыня, гульні і „пахмелле”

Пачатак другога месяца лета. Гарачыня рэзка змяняецца падзеннем тэмпературы і зноў яе ростам. Трава выпалена сонцам. Асабліва ў горадзе, дзе штодзённа сноўдаюць касцы, якімі кіруюць бязмозгія кіраўнікі жыллёва-эксплуатацыйных службаў. Нібыта гэтая касьба парадкуе тэрыторыю і ратуе насельнікаў ад кляшчоў, што апошнімі гадамі распладзіліся на і так няшчаснай беларускай зямлі. Працуюць гэтыя касцы са сваімі гучнымі апаратамі ад самай раніцы, незалежна ад пагоднай сітуацыі і стану надвор'я. Строга па заранёў, яшчэ зімой, складзеным графіку. Таму і кажу, што бязмозгая гэта практыка. Планавая эканоміка — рэч непахісная і бязлітасная. Хто жыў яшчэ пры савецкім сацыялізме — добра зразумее.

Гарачыня не натхняе да працы. Стан прыроды амаль як у старой песні ўзбекскага гурта „Ялла”: „Гарачае сонца, гарачы пясок, у гарачай пустыні, вады бы глыток”. Натуральна, што людзі імкнуцца на лецішчы, да рэк і азёр, нехта ў адпачынак на мора. Праўда, такую раскошу, як адпачынак на моры і ў курорце, могуць дазволіць далёка не ўсе жыхары сінявокай Беларусі. Адны таму, што ад веку не могуць вылезці са сваёй звыклай баразны — на тых жа лецішчах, ці калгасных сотках. Іншыя таму, што элементарна не маюць сродкаў на такі замежны адпачынак. Беларусы — усё ж дастаткова бедны матэрыяльна народ па еўрапейскіх мерках. І ўсе абяцанні Вярхоўнакамандуючага, які ўжо чвэрць стагоддзя ўпарта і паслядоўна цягне краіну назад у СССР, забяспечыць людзей сярэдняй заработнай платай эквівалентам 500 долараў, так і застаюцца пустапарожнім гукам. Ды і што такое нават 500 долараў пры дарагавізне літаральна на ўсё. Вось „слугі народу” — шматлікія чыноўнікі-бюракраты, міліцыянты, іншыя сілавікі, службы, забяспечаны дзяржавай якраз напоўніцу. Ды і пенсія адпаведная. Толькі такая ўжо іх прырода — прыкарытнікаў — усё роўна мала, таму ствараюць розныя, карупцыйныя схемы і крадуць. Канешне, памеры гэтай карупцыі смешныя ў параўнанні з эканамічнымі афёрамі і „аперацыямі” на самым версе. Аднак, што дазволена быку, не дазволена індыку. З усімі адпаведнымі наступствамі.

Вось скончыліся так званыя Другія еўрапейскія, нібыта спартовыя, гульбішчы. Шчыра спачуваю жыхарам Мінска — як яны толькі перанеслі гэтую фальшывую паказуху з процьмай нязручнасцей. Бо свята, навязанае гвалтоўна, зусім не свята. Але ж урэшце скончыліся гэтыя гулі — як заўсёды ўладзе ўдалося і самазадаволіцца і дагадзіць старэйшаму брату па поўнай праграме — тут і русіфікацыя афармлення, і чаканае першынства Расеі ў медальным заліку і нават у фінале сяброўскі прыём першай асобы Крамля ў кампаніі з яшчэ адным вялікім сябрам беларускага народа — уладаром сонечнага Таджыкістана Эмамалі Рахмонам.

Але пасля такога ўдарнага ідэалагічнага „запою” Беларусь рэзка пераходзіць яшчэ да аднаго рытуальнага перыяду — святкавання 3 ліпеня ў выглядзе „скокаў на касцях”. Напомню, што 75 гадоў таму ў 1944 годзе ў Менск пасля цяжкіх баёў і руйнавання горада ўвайшлі савецкія войскі. У 1995 годзе Лукашэнка праз рэферэндум вырашыў, што гэтая падзея абсурдна будзе называцца Днём незалежнасці. Дурман гэтага савецкага святкавання павінен яшчэ больш падагрэць градус у галовах суайчыннікаў ва ўсіх сэнсах.

Ну а пасля паводле класічных канонаў надыдзе „цяжкае пахмелле”. Прагназаваць яго надыход і развіццё вельмі проста. Народ будзе стагнаць, але трываць чарговы рост цэн, паслуг і камунальных плацяжоў, прадпрымальнікі і „вертыкальнікі” працягнуць дрыжаць перад вышэйшым начальствам і кантрольнымі органамі ў страху перад чарговым „раскулачваннем”. Ну а прадстаўнікам грамадзянскай супольнасці і проста асобным актыўным людзям можна рыхтавацца да чарговай хвалі рэпрэсій. Не трэба быць вялікім аракулам, каб спрагназаваць усё гэта напярэдадні так званай „выбарчай кампаніі”. Усё прадказальна, лагічна і непазбежна. Ухіліцца ад палітыкі гэтай сістэмы намнога цяжэй, чым ператрываць гарачыню.

Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ

# Кактус

Урачысты абед, завяршаючы сустрэчу 20 лідараў краін свету з найбольш развітай эканомікай, так званай групы G20 (Польшча і Беларусь, па зразумелых прычынах, не належаць да ёй), кончыў афіцыйны тост. Яго падымалі нармальна, чырвоным вінам. І пілі нармальна, з келіхаў. Толькі прэзідэнт Расіі Пуцін павёў сябе не так. Замест келіха ён падняў тост алюмініевым кубкам ад тэрмаса з гербам Расійскай Федэрацыі. Той кубак за раскошным сталом быў падобны да кактуса квітнеючага сярод суніц. Звычайна тосты падымаюць, у рэшце рэшт, не вышэй сваёй галавы. А расійскі птах на кубку Пуціна ўзняўся значна вышэй, і не толькі над яго галавой, але і над галовамі ўсіх сабраных за сталом кіраўнікоў дзяржаў. Ці была б гэта толькі палітычная няёмкасць, ці, можа, наўмысная правакацыя? Як бы гэта не было, вэртанне расійскага прэзідэнта на сусветныя салоны было эфектнае, мела і сімвалічнае вымярэнне. Усе аспекты палітычных пазлаў папярэдніх гадоў, тонкія гульні за кулісамі і дыпламатычныя спробы, каб спыніць ваенна-палітычнае пашырэнне Расеі ў Еўропе і свеце праваліліся. У апошняй раздачы карт паміж 20 сусветнымі дзяржавамі Расія ўжо стала паўнавартасным гульцом. Аднак цень двухгаловага арла, які лёг на іншых гульцоў, паказвае, што імкненні Расіі значна вышэйшыя. Несумненна, у гульні важнейшы не той, хто бярэ карты са стала, а хто іх раздае. Відавочна, што Еўропа разам з ЗША забыла пра Крым, пра вайну на Украіне, пра Сірыю. Сусветны бізнес зноў вывучае рускую мову. Еўрапейскія палітычныя салоны элітаў зноў папаўняюць розныя Ванькі-ўстанькі і матрошкі. Так пачынаецца новая эра Расіі. Паступова і Пуцін асабіста будзе мець справу зператасоўкай карт і іх раздачай. Я не думаю, што гэта будзе добра для Польшчы і Беларусі. Падобным чынам Літва, Эстонія і Латвія могуць адчуваць сябе пад пагрозай. Давайце пагодзімся, удзел у праекце, які называецца Еўрапейскім Саюзам, гэта адно, а іншае — эгаістычныя інтарэсы асобных дзяржаў-удзельніц ЕС альбо валодаючых імі палітычных сіл. Еўрапейскі Саюз паранейшаму гэта проста папяровы цмок. Мала ён значыць пры тым расійскім, усё больш галодным.

У свеце вялікай палітыкі абавязваюць пэўныя стандарты. Нельга паводзіць сябе брыдка на афіцыйных сустрэчах. Кубак — гэта няправільны посуд для святкавання ўрачыстых тостаў. У дыпламатычных перамовах таксама немагчыма ўжываць словы, якія занадта відавочныя ці нават непрыстойныя. У сувязі з гэтым прэзідэнт Рэспублікі Польшча з'яўляецца ўзорам палітычнай гладкасці. На самой справе праф. Лешак Бальцаровіч параўноўвае яго з Аляксандрам Лукашэнкам, ды колькі яму да таго! Калі гэты польскі ў кожным вымаўленым слове адзін мядок, той беларускі можа аблаяць, пры неабходнасці грымне ў стол кулаком! Нядаўна ён выказаў, напрыклад, патрабаванне да новага міністра ўнутраных спраў, каб той без памілавання лупіў тых, хто заслугоўвае гэтага. Пытанне, хто заслугоўвае, а хто не, належыць, несумненна, ад адвольнай ацэнкі самога прэзідэнта. На маю думку, я не заслугоўваю, але хто ведае, як спадар Лукашэнка вырашыць гэтае пытанне. На ўсялякі выпадак я пазбягаю Беларусі здалёк. На шчасце, прэзідэнт Беларусі выказвае занепакоенасць належным стаўленнем да грамадзян. Паводле яго слоў, «усё павінна адбывацца сумленна і справядліва». Значыць, сумленна і справядліва каго-небудзь грукнуць у морду або не грукнуць. Пытанне толькі ў тым, каго і за што.

Вышэйзгаданы праф. Лешак Бальцаровіч размаўляе прыгожа па-польску. Вельмі элегантна заяўляе пра недахопы ўведзенай у краіне сістэмы, партакратыю, палітычную карупцыю і ідэалагічнае дамаганне. Элегантнасць яго сказаў вельмі джэнтльменская. У параўнанні з заявамі вядучых польскіх палітыкаў, яго мова падобная на смокінг, кантрастны з замусоленымі фуфайкамі. Кажа, што палітыка, аснаваная на злоснай хлусні, на маніпуляцыі, цяперашняя прапаганда горшая чым у ПНР. Я не палітык. Таму магу дазволіць сабе невялікія адхіленні ад стандартаў прыстойнасці. Так, я праклінаю гарачы клімат колькі ўлезе! Хачу кардынальна змяніць планіроўку сада. Замест мясцовых кустоў і дрэў планую пасадзіць кактусы. Ужо нават крыніца ў маёй студні высыхае. Цікава, што ў Сібіры ў той жа час бушуюць апакаліптычныя паводкі з-за моцных ападкаў. А ў нас пра дажджы няма чаго марыць. Нарва не цячэ, а цыркае. А я казаў сябрам, што хутчэй мне вырасце кактус на маёй руцэ, чым Нарва высахне...

Міраслаў ГРЫКА



Сваімі вачыма

# Калодзеж жыцця

«А жара сцяной стаіць. Выйшаўшы на двор, гатова цябе забіць», — такімі словамі прывітаў мяне на мінулым тыдні мой бацька, калі я завітаў у свой родны дом. Пасля гарадской парылкі некалькі дзён пабыўкі ў роднай вёсцы здавалася мне спачатку проста збаўленнем. Але жара і тут бязлітасна ўварвалася ў драўляныя і мураваныя хаты. Каб жыць, засталося толькі многа піць. Зразумела, маецца на ўвазе толькі і выключна вада. Яда зусім не ўваходзіла ў рот. Піць хацелі ўсе — людзі, жывёла, агароды. Асабліва тыя апошнія глыталі ў сябе ваду быццам тыя ненасытныя цмокі. Ужо і так перацярэбленая з вясны агародніна і садавіна пасля нядаўніх прымаразкаў сутыкнулася зараз з паўсюднай засухай. Дзе, як дзе, але пад пушчай цягам апошніх тыдняў не ўпала аніводная кропля вады. Таму карпатлівыя ўладальнікі экалагічных загонаў безупынна падлівалі сваю расліннасць, каб не дапусціць да змарнавання сваёй цяжкай працы. Хапіла ім глянуць на выпаленыя сонцам панадворкі, дзе як на бубне не было відаць аніводнай раслінкі. Адна карысць з таго, бо як вядома, беларус мусіць знайсці чым пацешыць сябе ў кожнай цяжкай хвіліне, то факт, што перад хатамі перасталі гудзець газонакасілкі. Тады менавіта ранкамі ў абсалютнай цішыні можна было захапляцца птушынымі спевамі. А птушак, якія сваімі спевамі і разнароднасцю заварожвалі мяне і схілялі да назіранняў за імі, процьма. Толькі жара вельмі хутка заганяла ізноў у хату.

Але вернемся да вады і падлівання. У моманты засухі на дапамогу гаспадарам прыходзяць крыху прызабытыя калодзежы. Калі б прыйшлося ўсё падліваць гэтым летам вадой з гміннага водаправода, то за дзясяткі тысяч літраў пралітай вады прыйшлося б заплаціць столькі, што вырошчванне дароў прыроды было б не толькі непрыбытковай справай, але і сапраўдным фінансавым правалам. Таму вада з калодзежа гэта тое добра, якое дазваляе ўсё ж такі цешыць вока і страўнік смакамі свайго агарода і таксама знізіць выдаткі са сваёй кішэні. Але ведаю такія сітуацыі, што людзі ў сваёй бяздумнасці паліквідавалі калодзежы. Некаторыя зрабілі з іх, гэта жах, праўдзівыя... хатнія смеціцы. Бліжэй разумна і непашана для жывой вады здаюцца проста неверагоднымі. Сам ведаю адзін такі калодзеж з крынічнай вадой, які ніколі не высыхаў. Калі ў час засухі ў вёсцы высыхалі іншыя калодзежы, то да паўнаводнага калодзежа прыганялі свае статкі кароў і набіралі ваду ўсе гаспадары з вёскі. Нават у час пажару лесу сюды прыязджалі пажарнікі і бралі адсюль ваду, бо вакол нас няма ні рэк, ні азёраў, ні пажарных басейнаў. Бацька мне распавядаў, што натрапіць на моцную крыніцу ў зямлі гэта вялікая радасць. Ён сам у суседняй вёсцы дапамагаў капаць і будаваць калодзеж, але, упусціўшы ў глыбіню сорак чатыры кругі, вады так і не было. «Там, на нізе адчуваў я сябе такой маленькай мурашкай і толькі маліўся, каб там не загінуць ад абвалу ці сарванага вядра, якім выцягвалі зямлю на гару», — успамінае ён і зараз. Прыйшлося ўсё тады засыпаць і капаць у другім месцы.

У нас, хаця на пяшчузе, калодзежы найчасцей ужо з вадою на пяці-шасці ўпушчаных у глыб зямлі кругах. Таму засушлівым летам яны часта высыхаюць. Або бывае і так, што падземельныя крыніцы прарываюць слабыя недахопам цэменту кругі і заносяць дно калодзежа пяском. Такое здараецца і з нашым калодзежам. Памятаю з дзяцінства, як бацька расчышчаў калодзеж, а потым льняным пакуллем затыкаў дзіркі ў парваным крузе. Хапіла гэтага забеспячэння больш-менш на пяць гадоў. І вось зараз разам з братам прыйшлося і нам падтрымліваць традыцыю ачысткі калодзежа. Выбралі мы поўнасцю адзін занесены круг. Але, не маючы пакулля, мой з тэхнічнай кемнасцю брат знайшоў хуткасохлы бетон і менавіта ім замураваў усе дзіры. Нам самім, але і бацьку таксама, цікава, што акажацца лепшым — тэхнічная навінка, ці ўсё ж такі традыцыйны матэрыял водаправодчыкаў — пакулле? Ну што ж, час і вада адкажуць нам неўзабаве.

Яўген ВАПА

# Жыровічы:
## аддыхацца ў святой цішыні



— Прызнавайсь, хто здесь такой грэшны! — гукнуў *вадзіцель*.

І гэта ў момант, калі перасеклі ўказальнік: Жыровічы. Над белай лаўрай клубіліся шэрыя хмары. Цягнула бура і ляскалі маланкі. На здаровы розум — гэта добра. Усе маліліся за дождж, за халадок. Дзень раней у Берасці, адкуль каціла наша маршрутка, тэрмометры паказалі 38 градусаў гарачыні ў цяні. Пры новым аўтавакзале газоны прысыпаў шэры, гарачы пясок. Настрой пустыні дапаўняў бетонны фантан без кроплі вады. Ад самога віду засыхала ў роце і ўсе жаданні зводзіліся да аднаго слова:

— Дажджу!

Аднак бура ў Жыровічах — паганы знак. Ну, хай сабе льецца, грыміць, калі ніхто не едзе, калі народ прыснуў, адпачывае. Жыровічы — райскі куточак на зямлі, як пісала Ларыса Геніюш. Тут не павінна грымець і бліскаць. Бо калі грыміць і кіпіць неба, значыць, нейкі грэшны асобень з'явіўся пад акампанемент маланак. Ён, пэўна, нечысць з сабой валачэ. Лепш яго трымаць на віду ды абыходзіць кругам...

Да такіх менавіта высноў прывёў зухаваты вокліч *вадзіцеля*. Усе, хто дабіраўся на яго маршрутцы з Берасця ў Лаўру, адчулі сябе скаронымі і вінаватымі. У салоне лягло пакутлівае маўчанне. Прасохла ў роце, як на берасцейскім вакзале. Але адна цётка, што ўсю дарогу апавядала сваёй сяброўцы як знішчаць каларадскіх жукоў, не дала рады доўга маўчаць і адказала што трэба:

— Усе мы, бацюшка, *ці фу, вадзіцель*, грэшны!

Яе «ці фу» наклікала рогат і вярнула псіхічную раўнавагу ў салоне. На развітанне ўсе хацелі сказаць нешта ветлівае. Наш строгі *вадзіцель* са сваімі маральнымі навукамі напамінаў ужо звычайнага дзядзьку Сашу, то-бок беларускага шафёра.

— Ну всё! Шчасліва! — гаварыў ён на развітанне.

* * *

Ну, так. Прыехалі. А тую паганую буру пацягнула на балоты, у бок ракі Шчары. Выглядала так, што мы прагналі чорныя хмары, а не прывалаклі з сабой перуны. На абочынах, дзе-нідзе блішчэлі цёплыя калюгі. Затое дзе ні глянь грымелі лозунгі і білборды. Першы лозунг: «Мая радзіма — Беларусь» красаваўся на будынку-кругляку, што насупраць манастыра. У той бок вяла алея, абсаджаная аранжавымі лілеямі, якія ў Жыровічах называюць смаліносамі. Сіні, агромністы лозунг не памяняўся ад гадоў і гэта таксама наводзіла псіхічную раўнавагу пасля рускай, салодкай папсы, што гудзела ў маршрутцы. Яшчэ больш цешылі новыя прапагандысцкія «кветкі». Са сцяны суседняга Дома культуры, спазіраў білборд з камбайнам і спелымі пасевамі: «Мы, беларусы — мірныя людзі». Крыху далей віднела яшчэ адна шыльда, хоць яна падалася непрыкметнай і службовай: «75 лет освобождения Беларуси от немецко-фашыстских захватчиков». На фоне афіцыйнага сцяга кружылі буслы. Здавалася б годзе! Ды не, самы прыгожы і баявіты білборд павесілі насупраць манастыра. На ім красаваліся жаўнерымалойцы і лозунг: «Сэрцам адданы роднай зямлі!». Сардэчны білборд, быццам спецыяльна павесілі на прывітанне паломнікам з Расіі.

Беларусы глядзяць у той бок з недаверам, ці нават са страхам, як на якую правакацыю. З войскам і зброяй тут ладзіцца толькі руская мова...

Карацей, ад такой дэманстрацыі «нацыяналізму» мне ажно закруцілася ў галаве. Каб ахаладзіць мазгі, я адразу








пацягнула ў найбліжэйшы магазін «Прадукты»:

— Дайце мне ваду, — папрасіла я.

— Вам якую?

— Найлепш беларускую.

— У нас уся вада беларуская, — пачула я ў адказ. Пасля яшчэ прадавачка развіталася са мной ветлівым: калі ласка.

О-го! Хаця ў Жыровічах нічога не змянілася, я не пазнала сваіх Жыровіч. Яшчэ ў гэты дзень мяне чакала аўтарская сустрэча ў мясцовай бібліятэцы. Прапанова выступіць у Жыровічах атрымалася нечакана і выпадкова. Я сама не адважылася марыць пра такое шчасце.

Таму прысела ў цяньку і папівала «беларускую» мінералку «Дарыда».

Недзе ад Скандынавіі навяваў халодны вецярок, саступала жара.

— Як тыя людзі жывуць у гэтых афрыках! — разважалі дзве цёткі ў хустках, якія спяшалі на акафіст у Лаўру. — Як жа яны, бедныя, вытрымліваюць гэтую пякельную жару.

Мне таксама хацелася пацягнуць іх следам, але раней трэба было схадзіць на сваю аўтарскую сустрэчу і прэзентаваць кніжку «Па Прыпяці па Нобель».

(працяг будзе)

Фота і тэкст
**Ганны Кандрацюк**

## На рэабілітацыйным аддзяленні — 2019 (2)

Наступіў чацвёрты тыдзень маёй шпіталізацыі на рэабілітацыйным аддзяленні. Сумна стала ў палаце пасля развітання з Уладкам. І хоць няшмат часу мінула ад першага знаёмства, прызнаюся шчыра, што прыпалі сабе да душы.Чалавек вопытны і пражыты. І хоць часта спрачаліся, разумеецца, за цяперашнюю палітыку, але не злавалі на сябе. Зараз жа знаходзілі кампраміс для пагаднення. У суботу перад каталіцкім Вялікаднем узяў Уладэк пропуск і паехаў дамоў, каб з сям'ёю адзначыць святочны ўік-энд. Вярнуўся ў нядзелю на адвячорку. Пачаставаў мяне „свянцонкай". Я ў рэваншы два тыдні пазней частаваў калегу „валачэбным". У чарговую суботу, 4 траўня, калега зноў падаўся на пропуск. Перад ад'ездам чамусьці мяне спытаў:

— А калі праваслаўныя адзначаюць Юр'е?

— Чаму цікавішся? — пытаю.

— Гэта самы лепшы час для падкармлівання пчолак, — з усмешкай заявіў сябрук, знаток пчалаводства. Гэта была мабыць апошняя ўсмешка гэтага добразычлівага чалавека, якую мы бачылі ў палаце. У панядзелак, 6 траўня, раздзялялі з прыяцелем заўчасную смерць сына. Ён падаўся на машыне ў Бельск-Падляшскі, а ў палаце жыццё пакацілася сваім ходам. У аўторак, 7 траўня, на рэабілітацыйным аддзяленні праходзіў пратэст тэрапеўтаў і фізіятэрапеўтаў. Гэта агульнакраёвая акцыя. Пратэстуючыя салідарна падаваліся ў пункты донарства і аддавалі кроў. Працаўнікі дапаміналіся павышэння зарплаты. З таго, што мне сказалі, хацелі б атрымаць тое, што адавалі медсёстры, гэта значыць 1600 зл. брута. Такога рашэння дапаміналіся на цэнтральным узроўні акушэркі ў Варшаве. Гайнаўскія фізіятэрапеўты хацелі б, каб павысілі іхнюю зарплату на дзвесце злотых. Але сціплы бюджэт гайнаўскага шпіталя і на гэта не мог дазволіць. У кабінетах фізіятэрапіі, дзе працуюць жанчыны — Кася, Дорота і Галенка, у дзень пратэсту працавалі Лукаш і Мацей. Такое пагадненне заключылі ў час размовы з кіраўніцтвам СП ЗОЗ. Да абедзеннага часу прайшоў я назначаныя працэдуры. Паразмаўляў са сваёй беластоцкай дачушкай Алінкай, абмяняліся навінкамі. Перад чацвёртай пасляабедзеннага часу наведаў мяне сардэчны прыяцель з Бельска-Падляшскага Сцяпан Каляда. Наведаў пры нагодзе. Асноўнай мэтай яго прыезду быў удзел у інаўгурацыі Дзён царкоўнай музыкі ў Гайнаўскім доме культуры. Сцяпан — вялікі прыхільнік праваслаўнага царкоўнага брацтва. Палову Еўропы зведаў ён з паломніцтвамі. Многае ведае, бо многае бачыў. Быў навочным сведкам цікавых падзей. Святочны дзень св. Юрыя набліжаўся да вечара. Мае кампаньёны па палаце пасля вячэры падаліся на вячэрні шпацыр па прышпітальных сцяжынках, а я з балючымі нагамі задавальняўся музыкай з камп'ютарнага партала Ютуб. Чакаў, што прынясе заўтрашні дзень.

(працяг будзе)

**Уладзімір СІДАРУК**

## „Купальночка" ў Нараўцы

У нядзелю, 7 ліпеня гэтага года ў Нараўцы Гайнаўскага павета абдудзецца Ноч Купалы. У праграме — а гадзіне 19.45 карагод мастацкіх калектываў ад Гміннага асяродка культуры да амфітэатра над ракой Нараўкай, а пасля канцэрт васьмі калектываў з Беласточчыны і Рэспублікі Беларусь. На сцэне выступяць „Цаглінкі", „Лотас", „Гай", „Багач", „Лідар", „Клекацікі", „Вобраз кантрольны" і „Каляровыя гітары".

Пасля канцэрта танцавальная забава да гадзіны 2.30.

**(яц)**

## Журналістка тыднёвіка „Ніва" выступіла ў Жыровічах




**«Для мяне гонар і шчасце пабываць на святой зямлі ў Жыровічах, а двайное шчасце тут выступіць перад чытачамі»**, — гэтымі словамі пачала сваю сустрэчу з жыхарамі вёскі Жыровічы Слонімскага раёна журналістка беларускага тыднёвіка „Ніва", які выдаецца ў Беластоку, Ганна Кандрацюк. Сустрэча адбылася 27 чэрвеня ў Жыровіцкай сельскай бібліятэцы, якая знаходзіцца ў мясцовым Цэнтры культуры. Пазнаёміў з госцяй вяскоўцаў пісьменнік Сяргей Чыгрын. А потым выступала Ганна Кандрацюк. Яна распавяла пра тое, што любіць вандраваць па свеце, сустракацца з людзьмі, але найбольш яе хвалююць тыя мясціны і краіны, дзе жывуць беларусы. Пра іх журналістка з радасцю і піша. Падчас сустрэчы ў Жыровічах Ганна Кандрацюк адказвала на пытанні, бо іх было даволі шмат. Вяскоўцы пыталіся пра беларусаў Беласточчыны, пра іх жыццё і справы, пра тое, што найбольш сёння чытаюць у Польшчы. Аказваецца, маладзейшае пакаленне ў Польшчы любіць чытаць фантастыку і гісторыка-краязнаўчую літаратуру. Самой Ганне Кандрацюк даспадобы творы Зміцера Бартосіка, Барыса Пятровіча і Святланы Алексіевіч. Паэт Зніч, які жыве ў Жыровічах, падзякаваў госці за яе творы, і падараваў ёй жыровіцкія друкаваныя выданні. А загадчыца бібліятэкі Наталля Васілеўская прыпаднесла букет кветак і запрасіла ў Жыровічы прыязджаць часцей. Ганна Кандрацюк у сваю чаргу падаравала для бібліятэкі некальки нумароў тыднёвіка „Ніва" і ўласныя кнігі з аўтографамі.

**Барыс БАЛЬ**
Беларускае Радыё Рацыя

## Нацыянальныя меншасці і ІНП на тэму „Бурага"

— „Буры" як герой шэсця выклятых жаўнераў у Гайнаўцы гэта грубая памылка, — кажа Казімеж Краеўскі з Інстытута нацыянальнай памяці ў Варшаве.

Тэма капітана Рамуальда Райса „Бурага", адказнага за смерць цывільных ахвяр беларускай нацыянальнасці ў 1946 годзе, уздымалася 27 чэрвеня на пасяджэнні Супольнай камісіі ўрада і нацыянальных меншасцей. Прычынай дыскусіі была заява, апублікаваная на сайце ІНП у сакавіку гэтага года, у якой група гісторыкаў аспрэчвае вынікі следства з 2005 года, паводле якога дзеянні «Бурага» былі вызначаны злачынствам па нацыянальных і этнічных прыкметах. Казімеж Краеўскі, які на пасяджэнні камісіі прадстаўляў бок ІНП, адмовіўся ад каментарыя. У сваю чаргу Славамір Іванюк, прадстаўнік беларусаў, называе інтэрнэт-публікацыю ілжывай:

— Пастанова камісіі нацыянальных меншасцей, думаю, неяк уздзейнічае. І гэтыя, так званыя камунікаты, знікнуць з сайта Інстытута нацыянальнай памяці. А пакуль таксама з вуснаў прадстаўніка ІНП, думаю. Ён перадумаў свае ранейшыя выказванні, і згадзіўся з намі, што марш у Гайнаўцы, які пахваляе Бурага, гэта дрэнная справа.

Аднaзначна супраць публікацыі на сайце ІНП і пазіцыі, якую прэзентаваў прадстаўнік Інстытута на пасяджэнні камісіі, выказалася большасць удзельнікаў пасяджэння ад нацыянальных меншасцяў. Кажа Стэфан Дудра, гісторык, прадстаўнік лэмкаўскай меншасці:

— Меншасці, і не толькі прадстаўнікі беларускай меншасці, павінны рэагаваць на такія выказванні. Павінны займаць сваю пазіцыю. І такую пазіцыю спрабавалі мы тут прадставіць. Аргументаваць, што няма згоды на фальшаванне гісторыі польскай дзяржавы.

Інстытут нацыянальнай памяці прызнае, што некаторыя фармулёўкі ў тэксце аказаліся неадэкватнымі, але надалей абараняе дзеянні капітана Рамуальда Райса „Бурага" і яго падкамандных, якія ў 1946 годзе забілі 79 мірных жыхароў Бельскага павета, кажучы пра патрыятычныя імкненні жаўнераў польскага падполля, а смерць дзяцей і жанчын называе выпадковасцю.

**Радаслаў ДАМБРОЎСКІ**
Беларускае Радыё Рацыя

## Праваслаўныя Падляшша выказалі непаразуменне ў лісце да Сабора епіскапаў ПАПЦ



«Падпісаны звыш 400 вернікамі ліст у справе ўганаравання люблінскага ваяводы Пшэмыслава Чарнэка найвышэйшым ордэнам Польскай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы, перададзены Сабору епіскапаў, у канцылярыю мітрапаліта Савы», — паведаміла адна з ініцыятараў ліста, пісьменніца Анэта Прымака. Цягам 2 тыдняў пад лістом падпісаліся звыш 400 вернікаў. Ініцыятары ліста выказваюць непаразуменне — чым люблінскі ваявода заслужаны для праваслаўнай царквы ў Польшчы.

— Усе, хто падпісваўся, не разумеюць гэтага рашэння. Для нас гэта такое няўважнае стаўленне да нашай гісторыі, памяці. Гэтыя, хто падпісаліся, хацелі б ведаць, што такога ваявода Чарнэк зрабіў для праваслаўных у Польшчы, каб атрымаць гэты ордэн. Спадзяемся, што гэта будзе нейкі пачатак дыскусіі аб нашай традыцыі, гісторыі, нашым мінулым і аб тым, кім мы тут ёсць, праваслаўныя ў Польшчы.

19 траўня Сабор епіскапаў ПАПЦ уганараваў люблінскага ваяводу Пшэмыслава Чарнэка ордэнам Марыі Магдалены. Найвышэйшая ўзнагарода Царквы трапіла ў рукі чалавека, які зневажаў памяць цывільных ахвяр Сагрыні, дзе ў сакавіку 1944 года польскія партызанскія групоўкі здзейснілі злачынства ў дачыненні да мясцовых праваслаўных украінцаў. У Сагрыні, паводле гісторыкаў Інстытута нацыянальнай памяці, загінула ад 150 да 300 украінцаў, паводле ўкраінскіх гісторыкаў загінула ад 600 да 800 чалавек, сярод якіх звыш палову склалі жанчыны і дзеці.

* * *

Ліст праваслаўных вернікаў мітрапаліту Польскай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы архіепіскапу Саве ў справе ўганаравання люблінскага ваяводы Пшэмыслава Чарнэка ордэнам Марыі Магдалены будзе разгледжаны на Саборы епіскапаў, які пройдзе восенню гэтага года. Ліст апублікавала на фейсбуку адна з ініцыятарак збору подпісаў нязгодных з уганараваннем ваяводы найвышэйшым ордэнам Праваслаўнай царквы пісьменніца Анэта Прымака:

— Мы выступаем, як праваслаўныя, якія бароняць традыцыі, бароняць нашу гісторыю. Наша царква не так нас падтрымлівае, як мы б хацелі, а яшчэ і атакуе. Час штосьці памяняць, каб вернікі таксама мелі нейкі ўплыў на тое, што адбываецца ў жыцці царквы.

Справа ўганаравання люблінскага ваяводы Пшэмыслава Чарнэка выклікала пратэст вялікай колькасці праваслаўных вернікаў Польшчы. Ён неаднаразова публічна аспрэчваў злачынствы польскага падполля ў дачыненні да праваслаўнага ўкраінскага насельніцтва, а падчас апошніх урачыстасцей па ўшанаванні ахвяр Сагрыні назваў паніхіду небяспечнай правакацыяй.

**Валянціна Лаеўская**
Беларускае Радыё Рацыя

Лёсы Беларусаў Беласточчыны

# Мытнікі на мяжы з прозвішча Галец зрабілі Гольц

У Аляксандра Гольца, жыхара вёскі Вензавец Дзятлаўскага раёна, запытаўся, скуль у яго, беларуса, яўрэйскае ці нямецкае прозвішча — Гольц? Аляксандр усміхнуўся і сказаў: „Гэта мытнікі на мяжы зрабілі пару памылак у афармленні нашых сямейных дакументаў і стала ў нас прозвішча Гольц, а на самай справе наша прозвішча — Галец". Вось так проста з-за мытнікаў Галец стаў Гольцам. І жывуць Гольцы на Дзятлаўшчыне з пасляваенных гадоў, скуль іх выселілі палякі ў сярэдзіне 1940-х гадоў з роднай Беласточчыны.

Дзе на Беласточчыне нарадзіліся яго дзед і бабуля — Аляксандр Гольц не ведае. Не ўказана іх вёска ні ў якіх сямейных дакументах. У Навагрудскім занальным дзяржаўным архіве ёсць спісы рэпатрыянтаў з Беласточчыны. Напісаны там і Гольц Іосіф Міхайлавіч, дзед Аляксандра Гольца. Але скуль ён прыехаў — не згадваецца. Напісана ў архіўным дакуменце так: „Назва хутара не ўказана". Праўда, побач стаіць і прозвішча яго земляка Цімафея Сліцеўскага з хутара Лявіцкія, якія пасяліліся ў вёсцы Вензавец Дзятлаўскага раёна". Значыць, і Іосіф Гольц (Галец) быў родам з хутара Лявіцкія.

Аляксандр Гольц — унук Іосіфа і Ніны Гольцаў, ніколі пры жыцці не пытаўся ў іх пра Беласточчыну. Яму здавалася, што ўсе яны родам з Вензаўца і заўсёды тут жылі. Але дзед Юзік быў вельмі шчырым чалавекам, сумленным і працавітым. Аднойчы ў калгасе мы засталіся з ім каля вялікай гары з буракамі. Нікога не было. „Давай, дзядуля, мяшок буракоў кінем у машыну і завязем дамоў. Ніхто ж не бачыць і ведаць не будзе", — кажу дзеду. А ён паглядзеў на мяне і сказаў: „Унучак, лепш мы купім мяшок буракоў і будзем з табой спакойна спаць. А красці нельга...", — адказаў дзядуля.

У сям'і Іосіфа і Ніны Гольцаў нарадзілася двое дзяцей — Мікалай і Раіса. У жывых нікога ўжо няма. Аляксандр — сын Мікалая Гольца — жыве ў Вензаўцы, працуе ў калгасе простым рабочым: куды пашлюць — там і выконвае работу.



Прадзеды Аляксандра Гольца — Міхась і Таццяна Галец з сям'ёй на роднай Беласточчыне. Фота зроблена да Другой сусветнай вайны.



Маладыя Іосіф І Ніна Гольцы



Замуж выходзіць Рая Гольц



Аляксандр Гольц паказвае сямейныя фотаздымкі, чэрвень 2019 г.

Калі я завітаў да Аляксандра ў Вензавец, ён прыгожа пакасіў свой панадворак. Дастаў сямейныя альбомы і мы селі з ім на лаўку каля студні і пачалі разглядаць фотаздымкі. Іх у альбомах было даволі шмат. Амаль усе здымкі непадпісаныя. Чые вывы на здымках, хто сфатаграфаваны і дзе фатаграфаваліся — не памятае і сам Аляксандр. Але на многіх фота вясковец пазнаваў сваіх дзеда, бабулю, бацькоў, сваякоў і вяскоўцаў. Ён таксама распавёў, што пэўны час сам працаваў у Польшчы, сваякі яго бывалі на Беласточчыне і сувязь са сваякамі падтрымлівалі. Але цяпер — не.

Некаторыя фотаздымкі з сямейнага альбома Аляксандра Гольца сёння публікуем. Найперш, яго прадзедаў, дзядоў, бацькоў, цёткі, якія ўсе родам былі з хутара Лявіцкія.

Сяргей ЧЫГРЫН

## Новыя чытачы „Нівы"

Солтысы, радныя, настаўнікі і карэспандэнты „Нівы" могуць шмат зрабіць, каб павялічыць колькасць чытачоў нашага роднага штотыднёвіка. Мне — раднаму Нараўчанскай гміны Гайнаўскага павета — вельмі залежыць, каб „Ніву" чыталі ў Новым Ляўкове (маёй роднай вёсцы), Старым Ляўкове, Ахрымах, Падляўкове, Лешуках, Новінах, Плянце, Міклашэве, Семяноўцы і Нараўцы ды ў іншых навакольных вёсках. Зараз летам магу даехаць на ровары ў шматлікія вёскі. Я ведаю, хто зацікаўлены, пра што піша беларускі тыднёвік „Ніва". Яго чэрвенскія 23 і 24 нумары атрымалі ад мяне 29 чытачоў. Яны знайшлі многа цікавых рэпартажаў, артыкулаў і допісаў ды чаканы штотыднёвы гараскоп (у нас чытаюць яго перш-наперш жанчыны). У мінулым тыдні больш дзесяці экземпляраў часопіса мне прывезлі з рэдакцыі. Усе неадкладна я павёз да чытачоў.

Новымі чытачамі нашай беларускай газеты сталі Яўгенія Богуш з Міклашэва, Альжбета Кунцэвіч з Лешукоў, Анатоль Раманчук з Гушчэвіны, Вера Лукашук з Прэнтаў, Ірэна Максімюк са Старога Ляўкова і Мікалай Харкевіч з Новін, а таксама Анна Федарчук і Мікалай Янкоўскі з Гайнаўкі. Круг ніўскіх чытачоў у Нараўчанскай гміне пакрысе пашыраецца. Я буду рабіць усё магчымае, каб перш-наперш у Нараўчанскай гміне чыталі родны часопіс у сама менш дзесяці вёсках. Буду больш пісаць пра тутэйшых жыхароў і летнія культурна-забаўляльныя мерапрыемствы ў Нараўчанскай гміне, дасылаць фотаздымкі.

**(яц)**




## Магазін увесь год з кветкамі

Барбара Філіпчук любіць кветкі. З 2005 года яна мае свой кветкавы магазін „Dolce Vita" ў Міхалове Беластоцкага павета пры галоўнай гарадской вуліцы Беластоцкай. У кветкавы магазін найчасцей прыходзяць жанчыны. Хто як хто, а яны любяць кветкі, іх чароўнае хараство. Любяць, калі ім дораць кветкі мужчыны. Кветкі сваёй натуральнай прыгажосцю і пахам папраўляюць настрой. Гэтыя цудоўныя расліны спадарожнічаюць нам у радасныя і сумныя жыццёвыя моманты.

Кветак у магазіне спадарыні Барбары столькі, што можна выбіраць і выбіраць. Тут чырвоныя і жоўтыя ружы, чырвоныя гваздзікі (яны зноў становяцца папулярнымі), герберы, фрэзіі, маргарыткі, пахучыя ліліі і іншыя кветкі з экзатычнымі назвамі, напрыклад, антурыюм. Ёсць у продажы жывыя і штучныя кветкі. Яны ў вялікіх і малых гліняных і пластмасавых пасудзінах для вазонаў, між іншым, ятрышнікі і папроткі. Тут можна купіць гатовыя або на заказ вянкі і букеты з натуральных і штучных кветак з адвольным упрыгажэннем. Кветкі купляюць перш-наперш з нагоды імянін, дня нараджэння або вяселля. Нядаўна, у чэрвені, шмат купілі іх вучні для сваіх настаўнікаў з нагоды заканчэння навучальнага года і ў падзяцы педагогам за іх труд.

Міхалоўская кветачніца Барбара Філіпчук прывозіць сваім пакупнікам кветкі з вялікіх кветкавых магазінаў у Беластоку. Сама выбірае найлепшыя. Спадарыня Барбара — ветлівая і сімпатычная жанчына. Мае працу, якую любіць. **(яц)**



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)
www.e-zorka.pl

зорка
для дзяцей і моладзі

# Свядомы выбар

Нядаўна я паехала з маёй мамай і бабуляй у родную старонку дзядулі. Ён там нарадзіўся і жыў да шлюбу. Не ведаю, чаму раней я там не пабывала. Да сёння не магу зразумець, чаму я не пацікавілася гэтым месцам, калі яшчэ жыў дзядуля.

Спачатку мы наведалі могілкі ў Тэлятычах. Могілкі здаліся мне больш «польскімі». Чаму? Не ведаю чаму ў мяне атрымалася такое ўражанне, але там было нешта іншае, чужое. Можа таму, што на крыжах віднелі такія прозвішчы, як Панятоўскі, Сабескі?.. А можа таму, што там не было сініх крыжоў і высокіх бяроз, якія для мяне з'яўляюцца сімвалам айчыны.

Гэтае месца зусім не падыходзіла да вобразу, які раней я склала з расказаў дзядулі. Калі ён успамінаў свой родны кут, ён гаварыў што там Беларусь, а ён сам — беларус. Але калі я была ў вёсцы Анусін, я ні разу не чула, каб хто там гаварыў па-свойму, па-беларуску ці па-ўкраінску.

Месца, якое я ўбачыла — гэта было польскае месца.

Я пачала думаць — у якім свеце жыў і вучыўся мой дзядуля. Ці ён сапраўды беларус? А можа паляк? Людзі, якія жылі тут раней, гаварылі, што яны «тутэйшыя». Гэты тэрмін памёр разам са старымі людзьмі, нашымі прадзедамі. У сучасным свеце нам трэба выбіраць хто ты. Ці ты паляк — ці ты беларус?

Я маю гэтае шчасце, што я ведаю — хто я.

Я — беларуска.

Але праблема нацыянальнай прыналежнасці датычыць вельмі многіх людзей, якія нарадзіліся на памежжы. Яны часам думаюць, што нацыянальнасць залежыць ад таго, у якой дзяржаве ты нарадзіўся і дзе жывеш. Здаецца, такія людзі пачынаюць адчуваць злосць да іншых народаў. На маю думку, так нараджаецца нацыяналізм. Людзі не жадаюць высветліць свайго паходжання і вывучыць сваёй гісторыі.



Эва Іванюк, другая злева з сяброўкамі

Каб зразумець сябе, трэба многа размаўляць. Размаўляць з нашымі дзядулямі, з бацькамі, бо месцы вельмі хутка мяняюцца. Так як родны кут майго дзядулі, які сорак гадоў таму быў беларускі, а сёння ўжо з'яўляецца польскім.

**Эва Іванюк,** «Бел-News»

Дар'я Несцярук, «Шэпты з шафы»

## Мама

Уваходзіш у дом,
адчуваеш як усё ажывае,
і разам птушка прылятае,
і твае ўспаміны, мары.
Усё ажывае на двары ў матулі,
над тваёй галавой праплываюць хмары.
Уваходзіш у дом,
адчуваеш бяспечнае цяпло ад печы,
бачыш як твой бацька вяртаецца дадому.
Чуеш як шэпча сад,
а ад сямейнага стала
далятае пах матчынай кухні.
Усё выклікае ўспаміны дзяцінства.
Мама — гэта слова, якога нельга забываць.
Слова, якое застанецца з табой назаўжды,
слова, якое абазначае цёплага чалавека
які даў вам жыццё.
Слова, якое будзеш вымаўляць з усмешкай.

Дар'я Несцярук у сярэдзіне



## Дзённік

### Сустрэч «Зоркі»

9 чэрвень, нядзеля, гадзіна 17:30

Сустрэча з беларускім музыкам, пісьменнікам і журналістам Віктарам Сямашкам. Спадар Віктар — таленавіты і мудры чалавек. Ён расказаў нам пра сваё жыццё ў Беларусі, пра свае захапленні. Ён іграе на ўсіх музычных інструментах і адчувае музыку ў кожным месцы. Мне найбольш спадабаліся яго вершы, якіх я раней не мела магчымасці пачуць. На маю думку, у іх спалучана прастата і глыбокая чалавечая мудрасць.

(працяг будзе)

Эва Іванюк, Галоўны рэдактар «Бел-News»

# УВАГА КОНКУРС! № 27-19

Ляціць конь заморскі,
іржэ па-польскі,
а хто яго заб'е
— сваю кроў пральe.
(К....)

Разгадайце загадку, адказ дашліце ў „Зорку” да 21 ліпеня 2019 г., найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

## Загадкі з роднай хаткі

Адказ на загадку № 23: карова. Узнагароду, каляровыя алоўкі, выйграла Віялета Смалюк з Арэшкава. Віншуем!

# Купальскія зёлкі

З дзевяностых гадоў мінулага стагоддзя адрадзіўся народны абрад «Купалле». Гэта свята сонца, росквіту зямлі і перш-наперш КАХАННЯ. Новая традыцыя хутчэй за ўсё абмяжоўваецца да прывітання лета. Лета вітаюць у нас з песняй, вясёлымі гульнямі і смачнай ядой. Таксама ўмоўны перыяд здзяйснення абраду. Зараз «Купалле» адзначаюць з паловы чэрвеня да паловы ліпеня.

Інакш глядзелі на купальскі абрад нашы продкі. Напярэдадні Яна (23 чэрвеня або 6 ліпеня) людзі збіралі лекавыя зёлкі, між іншым, святаяннік, крываўнік, мяту, татарак, румянак, канюшыну, валошкі, якія ў гэты дзень набываюць магічныя і лекавы якасці. Букет купальскіх зёлак часта асвячалі ў царкве (такі звычай захаваўся ў нас у Пасынках, каля Бельска) у дзень святога Яна.

Аднак у народзе амаль усе абрады і гульні праводзілі ноччу ля вогнішча пры рацэ ці возеры. Апрача гульняў і скокаў праз агонь трэба было пакупацца ў рацэ, найлепш на ўсходзе «новага» летняга сонца. Тады, верылі нашы продкі, абмінуць вас усе хваробы скуры і маркотны настрой. Таксама існавала павер’е ў папараць-кветку. Той, хто знойдзе яе ў купальскую ноч, зразумее мову дрэў і птушак ды знойдзе закляты скарб. **(гак)**

*Паўлюк Трус*

## У купальскую ноч

У купальскую ноч
над прасторамі вод
цалаваліся явар з калінаю.
Як драмалі палі,
засынаў небазвод, –
я спаткаўся з чароўнай дзяўчынаю...
Як драмалі палі,
а ў палях ды туман,
ой, туман-малачай серабрысты
жыта рунь паліваў
і кудзеліў твой стан, –
мы ступалі далінай імглістай.
А ў даліне ў цішы
чырвань-кветкі цвілі,
ты вяночкі пляла прамяністыя.
Залаціўся агнём
золак ранні ўдалі,
як мінулі даліну імглістую.
І пайшлі, і пайшлі
мы на вольны прасцяг,
у прасторы палёў сінявокія.
Толькі спевы дзяўчат,
ой, ды спевы жыцця
ўсплывалі далёка, далёка…
Не развесісты гай
гаманіў пад гарой,
не зязюля ў гаі кукавала, –
у купальскую ноч
пры спатканні з табой
ты аб шчасці з запалам спявала.

## Размалюйце!



Малюнак: Алены Шаліма

# Польска-беларуская крыжаванка № 27-19

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку”. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку № 23-2019:**

Прагул, ганак, грак, ліра, ікона, аматар, піва, ох, гадалка, то, сястра. Пугач, ярд, гукі, Ас, капля, комікс, купля, нават, салата, ні, ар, рот, сказ, хор.

Узнагароды, **аўтаручкі,** выйгралі **Марыюш Радзецкі, Наталля Гайдук, Аляксандра Аніськевіч, Юстына Астапкевіч** з ПШ № 1 у Гайнаўцы, **Магда Якубюк** з ПШ № 3 у Бельску-Падляшскім. Віншуем!

| | | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Tur / Duch | | Żłobek | | | | | Lena / Ina | As | Wieś | | |
| | | | Dojrzały / Potok | | | | | Cerkiew | | Śmietanka | |
| | | Piana / Sen | | | | | Pień / Ciocia | | | | |
| | Słonina / Bandaż | | | | | Bas / Most | | | | | |
| Buty / Kino | | | | | Marchew / Za | | | | | | |
| | | | | Gwiazda / Wy | | | | | | Jak | |
| Sto | | Kwas | | | | | Bór | | | | |
| | | | | | Trawka | | | | | | |

# Царкоўная музыка вышэй і дабрэй

*Размова з **Віталём САБАЛЕЎСКІМ**, дырыжорам Архірэйскага хору Сабора Святога Духа з Мінска, лаўрэатам сёлетняга Фестывалю пяючай душы.*


Фота Аляксандра ВЯРБІЦКАГА

**— Як вы трапілі на наш фестываль?**

— Нас запрасілі прыняць удзел у гэтым фестывалі. Кажуць, ну калі мы даведаліся як вы спяваеце, калі ваш хор і так з'яўляецца лаўрэатам шматлікіх конкурсаў і фестываляў, калі вас ужо двойчы запрашалі на маскоўскі Пасхальны фестываль, мастацкім кіраўніком якога з'яўляецца ўсім вядомы Валерый Гергіеў. Нам запрапанавалі катэгорыю прафесійных хароў. Ну, канешне, мы апасаліся, але ўсё роўна вырашылі паспрабаваць сябе ў прафесійнай катэгорыі. Канешне, мы не маем столькі часу на рэпетыцыі, таму што нашай асноўнай, галоўнай мэтай літургія, набажэнствa, мы спяваем і на святочных літургіях, і на ўсяночных трываннях; гэта спявае вялікі наш калектыў. Таксама спяваем яшчэ на буднях, такія будныя службы, калі мы дзелімся на шэсць-восем чалавек. Такая ў нас асноўная мэта і састаў канешне, зборны, таму што нехта там робіць, нехта там, але ўсе яны аб'ядноўваюцца вось у нашым галоўным саборы нашай Беларусі. Ну, але калі нам запрапанавалі і запрасілі, то што ж — паўдзельнічаем, нічога не зробіш.

**— Што спяваеце ў сваім саборы, бо сюды вы прыехалі з даволі класічным рэпертуарам. Ці на літургіях у саборы спяваеце толькі класіку ці ўводзіце нешта навейшае, сучасных кампазітараў. Як вас успрымаюць вернікі?**

— Вернікі ўспрымаюць нас вельмі добра. У нас калектыў, ён з'яўляецца больш такім класічным, таму што ўжо даўно былі закладзены нейкія акрэсленыя традыцыі ў нашым кафедральным саборы. Канешне, мы спяваем і „Усяночнае трыванне" Аляксандра Архангельскага, і бажэственную святочную „Літургію" Паўла Чеснакова. Але пакрыху мы ўводзім і сучасных кампазітараў, спяваем Кірылу Стэцэнка, спяваем некаторыя творы Лэсі Дычко. Таксама мы спяваем і нашу беларускую кампазітарку Ірыну Дзяніcаву, яна зараз манахіняй. Але вельмі хацелася б сказаць, што на конкурсе мы не толькі ж прадстаўлялі нейкую традыцыйную класічную праграму, у нас жа ж былі прадстаўлены і беларускія кампазітары: эмігрант Мікалай Равенскі, які быў нашым земляком; найбольш будзе вядомы па творы на словы Наталлі Арсенневай „Магутны Божа". Але вось у мяне, у маім кафедральным саборы ёсць вялікая нотная бібліятэка і я вось знайшоў яго „Верую". І калі мы гэта паказалі арганізатарам фестывалю, яны ўзрадаваліся і сказалі, што ў іх яшчэ ніхто такога не спяваў. Таксама мы спявалі нашага беларускага сучаснага кампазітара протаіерэя Андрэя Бандарэнку; ён з'яўляецца святаром у кафедральным саборы горада Гародня, таксама ён з'яўляецца і беларускім кампазітарам. Ён закончыў нашу Беларускую дзяржаўную кансерваторыю і ў нас вельмі цесная сувязь з гэтым кампазітарам; у нас ёсць ягоныя трапары на вянчанне, напісаныя на беларускай мове. І вось зараз у рэпертуар нашага калектыву мы ўзялі кандак вялікага канона Андрэя Крыцкага „Душэ мая". Таму ў нас не толькі класічная праграма, але і сучасныя кампазітары.

**— А як успрымаюць навінкі вернікі?**

— Знаеце, яны ў прынцыпе дзякуюць, пасля пытаюцца: а хто гэта быў? І нейкай крытыкі няма. Ну, гэта не так як мы хацелі, напрыклад, узялі ўсё замянілі, а патрошку, патрошку ўводзім новае. І вернікі нармальна, добра ацэньваюць і дзякуюць. Яны вельмі задаволены нашым калектывам; яны заўсёды, і ў храме, і на нашых канцэртах масава прыходзяць, у нас заўсёды добрае сяброўства.

**— Вы зоркамі харавога спеву ў сваіх вернікаў...**

— Мабыць так. Канешне, наш калектыў з'яўляецца царкоўным калектывам, мы не маем статусу прафесійнага калектыву, але калектыў ён прафесійны і зараз многія ў Мінску гавораць, што ў нас была дзяржаўная капэла, оперны хор, а зараз у нас з'явіўся архірэйскі хор, які ўваходзіць у тройку вядучых калектываў у Мінску.

**— У вашым хоры маладыя і вельмі маладыя людзі.**

— Я і сам малады дырыжор і закончыў БДУ як тэолаг і рэлігіязнаўца, а пасля, вось зараз заканчваю ўжо як дырыжор у Маскве. Я сам малады і неяк трэба моладзь прыцягнуць да спеваў, таму што музыка гэта вельмі добра, а калі гэта царкоўная музыка, дык гэта вышэй і дабрэй. Сэрца і душа адкрываюцца для тых, каму мы спяваем, і спяваем, канешне, для Бога.

**— Ці ў вашым рэпертуары ёсць свецкая музыка?**

— Свецкай музыкі ў нас вельмі шмат. У нас ёсць і беларуская народныя песні, і рускія народныя, і польскія. Калі мы прыязджалі на фестываль у Гайнаўку дык на канцэрце, які яны ладзілі, папрасілі заспяваць „Гэй сакалы", і мы рабілі аранжыроўку. У нас шмат свецкай музыкі. Зараз мы прыехалі з Масквы, дзе мы спявалі ваенную тэматыку, бо былі там пад 9 Мая. Вельмі шмат свецкай музыкі. І з фільмаў, у нас ёсць песні з рэпертуару Анны Герман, а ў яе была вельмі прыгожая калядка „Люляй Езуню". І калі ў нас праходзіў конкурс памяці Анны Герман, мы і яе заспявалі, і „Надзежду". Рэпертуар наш вельмі вялікі, і класічная, і духоўная музыка; у нас вельмі-вельмі многа духоўнай музыкі сучасных кампазітараў.

**— Вы, значыць, накіраваны і на свецкую публіку...**

— Канешне, у нас у лютым быў юбілейны канцэрт нашага калектыву, нашаму хору ўсяго пяць гадоў як мы заснаваліся, як мы сталі архірэйскім хорам. І ў нас зала вялікай нашай Беларускай дзяржаўнай філармоніі была поўнасцю запоўнена, нават яшчэ дастаўлялі месцы; каля 900 чалавек было толькі ў філармоніі. І калі ў нас першае аддзяленне гэта духоўная музыка класічных і сучасных кампазітараў, то другое аддзяленне гэта толькі свецкая музыка.

**— Якая геаграфія вашай дзейнасці?**

— Нам толькі пяць гадоў, але мы змаглі ўжо пабываць у Славеніі, у Польшчы, двойчы на маскоўскім фестывалі Гергіева, у Санкт-Пецярбургу. Мы ўжо маем чатыры дыпломы лаўрэатаў першага месца і дыплом гран-пры.

**— А як бачыцца вам Беласток на фоне іншых фестываляў; падабаецца вам тут, у Беластоку?**

— Вельмі падабаецца. Я вельмі люблю Польшчу, таму што я сам нарадзіўся ў Заходняй Беларусі, пад Брэстам. І мая бабуля вельмі часта расказвала пра Польшчу, што калі мы жылі пры Польшчы, было вось так і вось так. А ў нашым родзе ёсць і католікі, і праваслаўныя, таму ўсё ў нас святкуецца: і польскае, як бабуля казала, Раждажство, і праваслаўнае; двойчы святкуем Раждажство. І калі я прыязджаю ў Польшчу, я вельмі добра разумею што вы гаворыце. Я вельмі люблю польскія стравы; калі ў нас многія не ведаюць што гэта пляцкі, то я гэта знаю, бо бабуля гэта рабіла і пытала: „Дзіця, будзеш есці пляцак ці не?"

**— Дзякую за размову.**

**Аляксандр ВЯРБІЦКІ**

# За фігавым лісточкам

У час масавых мерапрыемстваў у беластоцкай філармоніі можна наглядаць асаблівую сцэнку: тлумную чаргу перад пазначанай кольцам жаночай прыбіральняй. Перад мужчынскай прыбіральняй, пазначанай клінком, такога амаль не бывае. Чым тады патлумачыць гэтую несіметрычную з'яву?

Вядома спакон вякоў, што няма ў нашым свеце жаноча-мужчынскага раўнапраўя, што жанчыны ўвесь час пакрыўджаныя, што ў нашай цывілізацыі пануе патрыярхат. Яшчэ не так даўно жанчыны мала прысутнічалі ў грамадскім жыцці, што ў сучаснай дэмакратыі марудна дабіваліся тых правоў, якімі здаўна карыстаюцца мужчыны. Ну, для прыкладу, выбарчыя — не ўва ўсіх краінах яны дасяжныя прыгожаму полу. Хаця правіцелькамі жанчыны станавіліся, і то даволі паспяховымі, для прыкладу: брытанская каралева Вікторыя, расійская царыца Кацярына ці, зноў брытанская, „жалезная лэдзі" Маргарэт Тэтчэр. А ў свежай адстаўцы брытанскай прэм'ер-міністр Тэрызы Мэй, як мне здаецца, больш віноўныя мужчыны чым яна сама. Вось яшчэ нядаўна ў Саўдаўскай Аравіі жанчынам не дазвалялася нават вадзіць аўтамабіляў, тады калі ў нас жанчыны штораз смялей штурмуюць пазіцыі за баранкай. А ў перадавым Савецкім Саюзе жанчыны станавіліся на пазіцыі не толькі даярак, свінарак ці прыбіральшчыц, але таксама вадзілі трактары, танкі ці самалёты; праўда — не дабіваліся яны там пасад генсекаў; дазвалялі ім быць міністрамі, бо сам Ленін быў заявіў, што такую пасаду можа займаць нават кухарка.

Пара, аднак, вярнуцца ў беластоцкую філармонію і глянуць на тую з'яву, якая спадарожнічае тамашнім масавым мерапрыемствам. Можна меркаваць, што жанчын у філармонію з'яўляецца значна больш чым мужчын. Бо калі глянуць на мастацкую актыўнасць нашага тутэйшага насельніцтва, на нашы мастацкія калектывы, то ж там бачна вялікую звышрэпрэзентацыю жанчын. І калі глянуць на аўдыторыю, то бачыцца тое ж самае. Гэтая з'ява можа тлумачыцца з гістарычна-прэгістарычнага пункту гледжання. Папросту так у мінулым склаліся сямейныя абавязкі, што жанчыны сядзелі дома, пільнуючы сямейнага ачагу, калі мужчыны падаваліся навонкі для здабычы ўсяго ў сям'і патрэбнага. І жанчынам трэба было даглядаць дзяцей, калыхаць іх ці крычаць на іх — адным словам трэба было ім карыстацца рознай галоснасці голасам. З гэтага і атавістычная цяга да спеву. А мужчыны ў той час недзе палявалі, цікавалі за хітрай звярынай, калі трэба было напружваць слых і маўчаць, каб яе не спалохаць. Ці гэтыя патрабаванні дагістарычнага жыцця пакінулі след у сённяшняй беластоцкай філармоніі?

Можна сказаць, што ў нейкім сэнсе так, а можна і адмовіць гэтай узаемасувязі. Нядаўна, усё ж тыя, брытанскія, даследчыкі, магчыма, што і зусім незнаёмыя з падзеямі ў беластоцкай культурнай установе, выпрацавалі вывад, што жанчынам трэба ў два разы больш прыбіральняў чым мужчынам. Вынікае гэта з таго, што жанчыны патрабуюць там больш часу. Ды не толькі: калі б падлічыць колькасць унітазаў і пісуараў, то іх параўнанне выпадзе для жанчын некарысна. Праблема, бо ж дзеля справядлівага доступу да гэтых, яшчэ нядаўна сарамлівых у нас, выгад, трэба было б перабудоўваць інтэр'еры шматлікіх публічных устаноў...

Чарга перад прыбіральняй гэта стрэсуючы жанчын фактар. Бо і лічыцца лімітаваны ў культурных установах час, дзе ўсё ў прынцыпе адбываецца паводле гадзінніка. А стрэс жа таксама мае ўплыў на выгляд, на фігуру. Таму цалкам заканамерна, што ў тых пазначаных кольцамі месцах заўсёды бываюць люстры, у якія абавязкова трэба заглянуць, каб выстраіць фігуру прывабна, каб прыцягнуць да сябе ўвагу. Як ні глядзець, ва ўстановах масавай аўдыторыі жанчынам трэба намнога больш месца і часу чым мужчынам. Дзеля справядлівай справядлівасці.

Цывілізацыйны прагрэс, калі ён набіраў свой разгон, не заўважаў гэтай праблемы. Ды і пазней, калі да голасу сталі даходзіць эмансіпанткі, суфражысткі, феміністкі, яны таксама былі захоплены тым, каб больш захапіць, а не тым як чаго ўнутранага пазбыцца. А мужчынам гэтая справа — хоць воўк траву еж. Ну і маем тое, што маем. Клопат.

Калісь такога не было. У дапрагрэсавы час дастаткова было прысесці за хлеўчык ці пад кусцік, адхіліць фігавы лісточак — і па праблеме. Быў рэгрэс, а настаў прагрэс...

**Аляксандр ВЯРБІЦКІ**



Юрка БУЙНЮК

# Музыка ў маім сэрцы і душы

Ад малога мяне цягнула да музыкі. Па сённяшні дзень мой дзед успамінае:
— Юрка, а памятаеш, як я да вас прыйшоў, а ты іграў для мяне на веніку?

Я гэтага не памятаю, але ў дзяцінстве я любіў іграць на чым папала. У час разгрузкі фуры з сенам у стадоле іграў я на вілах быццам на электрагітары. Прыкідваўся, што на дошках іграю як на клавішных інструментах, а на пластмасавых вядзерцах з-пад селядцоў іграў як на бубнах. Музыка змалку была ў маім сэрцы і душы. Я кахаю музыку ўсім сэрцам. Мой прадзед Іван Міранчук быў гарманістам.

Памятаю, як у канцы 80-х гадоў XX стагоддзя на сцяне маёй роднай хаты вісеў лямпавы радыёпрыёмнік, які лавіў доўгія хвалі. Я па суботах вельмі любіў слухаць перадачу «Радыё Рэлякс» па першай праграме Польскага радыё. Першай песняй гучала кампазіцыя славутага французскага клавішніка Жана Мішэля Жара «Fourth Rendez-Vous». Мне да гэтай пары падабаюцца ягоныя кампазіцыі. У 1987 годзе я пайшоў у пачатковую школу ў Малінніках. Запамяталіся мне там школьныя святы: «Анджэйкі», пачатак і заканчэнне школьнага года, Дзень жанчын. Найбольш запамяталася мая першая школьная ёлка, здаецца, 14 студзеня 1988 года. Дзень перад ёлкай бацькі рабілі падарункі для дзяцей. У шэрую паперу завівалі шакалад, цукеркі, яблыкі. Аднак найбольшай раскошай былі апельсіны або мандарынкі. Найбольш запамяталася мне музыка на школьных ёлках. Тады гучалі песні такіх гуртоў як *Ласкавы май* — «Белые розы», *Modern Talking* — «You're my heart, You're my soul», *Top One* — «Biały miś». Хлопцы з Маліннік і навакольных вёсак былі ды-джэямі і з двухкасетных магнітафонаў пускалі модныя на той час аўдыёкасеты. Аднак найбольш запамяталася мне заканчэнне восьмых класаў у 1995 годзе. Тады я ўпершыню ўсю ноч пратанцаваў з найпрыгажэйшай дзяўчынай не толькі ў маім класе, але ў нашай школе. Я быў тады страшэнна нясмелы, наіўны і насамрэч не думаў пра дзяўчат. Аднак Аня была найпрыгажэйшай дзяўчынай у нашай школе. Была стройная і лёгкая ў танцы як матылёк, у чорнай сукенцы ў каляровыя гарошынкі выглядала цудоўна. Мела доўгія цёмна-русыя валасы, была вельмі натуральная і не малявалася, была вельмі шчырая і найлепш вучылася ў нашым класе. Аднак у мяне не было адвагі прызнацца ёй у маім каханні. З маім першым нясмелым каханнем асацыююцца песні, якія гучалі на пачатку чэрвеня 1995 года. Таму з сантыментам успрымаю такія гурты disco polo як *Akcent*, *Boys*, *Milano*, *Kolor*, *Kometa*. У 2014 годзе расейскі спявак, кампазітар і аранжыроўшчык Сяргей Дзядзюн запісаў песню «Я знаю, ты помнишь», якая трапна адлюстроўвае пачуцці майго першага кахання да Ані.

## МУЗЫКА ЛІЦЭЙСКАГА ПЕРЫЯДУ

У 1996 годзе паступіў я ў Бельскі белліцэй. За свае грошы купіў я першы магнітафон. Аня таксама вучылася ў маім класе і мела ўжо хлопца. Я часта хадзіў на бельскі базар. Там сваю лаўку з касетамі з Расіі і Украіны меў украінец Пэтро. Мой бацька шчыра з ім падружыў. Дзякуючы яму я стаў фанатам украінскай еўрадэнсгрупы *Made in Ukraine*. Тады таксама слухаў *Руки вверх*, *Иванушки International*, Андрэя Губіна ці рускай групы *Демо*. Таксама на базары я купляў касеты нашых беларускіх гуртоў з Беласточчыны такіх як *Ас*, *Прымакі*, *Рэаль*, *Сапгі*, *Грамада*. Купляў касеты з польскай музыкай гуртоў *Akcent*, *Boys*, *Milano*, *Imperium*. Касеты з Польшчы тады каштавалі 6-8 злотых, а рускія і украінскія — 5 злотых. Мой бацька купляў касеты *Маланкі*, польскага гурта *Kolor*, украінскага *Сусіди*. Я заўсёды смяяўся, што ў бацькі густ пенсіянера. Мая маці да гэтай пары любіць песні польскага гурта *Boys*, а асабліва песню «Łobuz» і заўсёды паўтарае, што гэта песня пра майго бацьку. Мне падабаўся гурт *Ас*, асабліва яго касеты «Выйду на вуліцу», «Едуць гарадскія» ці «*Ас* для вас». Славамір Трафімюк уклаў сваё сэрца, калі пісаў такія песні як «Дзяўчыначка», «Едуць гарадскія», «Песня пра каханне» ці «Песня пра маму». Мне да гэтай пары падабаецца песня «Айчына» калектыву *Ас*. Сэнс яе зразумеў я тады, калі пачаў вучыцца ў Беластоку на ўніверсітэце. Тады я па пятніцах прыязджаў у бацькоўскую хату, а ў нядзелю пасля абеду вяртаўся ў Беласток. Славаміра Трафімюка лічу вельмі таленавітым аўтарам тэкстаў і кампазітарам, а песні гурта *Ас* — часткай маёй аўтабіяграфіі. Я нават не думаў, што асабіста пазнаёмлюся са спадаром Славамірам і не раз з ім сустрэнуся ў жыцці. Гэта вельмі шчыры і добразычлівы чалавек і таленавіты музыкант. Таксама я не думаў, што ў кастрычніку 2000 года сустрэну Генадзя Шэмета, а ён мне падорыць сваю касету «Яблынька»! Вяртаючыся поездам з Беластока ў Рыгораўцы, сустрэў я даўняга сябра і пахваліўся яму, што я пазнаёміўся з Шэметам з *Грамады*! Генадзь Шэмет дапамог многім нашым калектывам з Беласточчыны. Ён жыве ў Беластоку, дзякуючы чаму беларуская музыка ў Польшчы атрымала прафесійнага, з музычнай адукацыяй кампазітара, аранжыроўшчыка і вакаліста. Гэта наш чалавек, так як Славамір Трафімюк, Юрка Астапчук з *Прымакоў* ці Міраслаў і Ян Кавальскія з гурта *Лідар*.

## ПЕРШЫЯ АЎТАРСКІЯ ПЕСНІ

Першыя песні стаў я пісаць у 1996 годзе ў многіх жанрах на беларускай і роднай падляшскай мовах. Я заўсёды марыў навучыцца іграць на клавішных інструментах, але не навучыўся. У 1999 годзе ў бельскай краме клавішы маркі Roland каштавалі 700 злотых. Уявіце я гэтыя грошы меў і гэта былі мае грошы! А бацька сказаў: «Купіш, пайграеш, знудзіцца і будуць ляжаць на гарышчы». А я марыў мець свой калектыў такі як *Ас*! Аднак мая любоў да музыкі ў мяне надалей трывае. Бацька забраў мне гэтыя грошы, а я надалей пісаў свае тэксты песень у шуфляду стала.

## ПЕСНІ ЯК ДЗЯЎЧАТЫ

Калі пачаў я жыць у Беластоку, напісаў такі смешны вершык пра гэтыя часы:

Калі я ў «Ніве» меў ганарарчык,
Хадзіў на Юравецкай базарчык,
Тое рабіў, што маладыя паэты,
Купляў беларускія касеты.

Касеты мы куплялі з маім сябрам Янкам — беларусам з Дубровы-Беластоцкай. З ім мы размаўлялі па-беларуску на калідорах Беластоцкага ўніверсітэта. Янка таксама фанат гурта *Ас* і ўвогуле беларускай музыкі і мо таму мы шчыра пасябравалі.

Калі я ў 2000 годзе стаў жыць у інтэрнаце для студэнтаў, адкрыў, што многа студэнтаў іграе на гітары і ўсе файна гуляюць пад песні спяваныя пад яе акампанемент. Падумаў я прыдбаць сабе інструмент і 16 ліпеня 2003 года купіў сваю першую гітару. Бацька традыцыйна не быў задаволены, таму я іграў і спяваў песні пад гітару, калі бацькі не было ў хаце. Вучыўся я іграць, можна сказаць, сам, але акорды паказаў мне старэйшы за мяне на дзесяць гадоў сусед Юрка. Вучыўся я на «Фольккавым спеўніку», выдадзеным Праваслаўным брацтвам у Беластоку. Сябра Аляксей мне падарыў спеўнік песень гурта *Н. Р. М.* з «Нашай нівы». Мой найлепшы сябра Грышка з Маліннік вышукваў у інтэрнэце тэксты песень з акордамі польскіх рок-груп, друкаваў і дарыў іх мне. Асабліва я вельмі любіў іграць песні польскай рок-групы *Lady Pank*. Першымі песнямі, якія я самастойна зайграў са спеўніка, былі «Беларусачка», «Вяне рута», «Цячэ вада ў ярок», украінская песня «Червона рута». Пасля я стаў спяваць свае аўтарскія песні са сшыткаў з песнямі, якія я пісаў з 2001 года. Перыяд 2003-2006 гадоў гэта быў вельмі творчы час і я тады запісаў пяць магнітафонных касет са сваімі аўтарскімі песнямі. Бабуля, маці і сястра вельмі любілі іх слухаць. Запісваў я іх на касетах праз эстрадны мікрафон Shure, падключаны да музыкальнага цэнтра маркі Samsung. Пасля мой добры сябра Адам навучыў мяне перапісваць песні з касет на камп'ютар у лічбавы фармат mp3. Дарэчы, у 2005-2006 гадах, калі я быў студэнтам беларускай філалогіі, у той час мы з сябрам Аляксеем у асноўным слухалі беларускі рок, у выкананні гуртоў *Н.Р.М.*, *Уліс*, *Б: Н:*, *Крама* і іншыя. Мне вельмі падабалася музыка *Б:Н:*, асабліва іх першы альбом «Не трывай». Думаю, што гэта найлепшы альбом *Б:Н:* у іх кар'еры. Апрача таго я слухаў украінскія рок гурты *Океан Эльзы*, *Воплі Відоплясова*, *Скрябін*. З рускіх да гэтай пары вельмі люблю іграць песні груп *Любэ* і *Кіно*. Праз нейкі час я стаў збіраць кампактдыскі ўкраінскага фольк-гурта *Горпына*. Дарэчы, у 2000-2010 гадах я слухаў рок, панк-рок, хеві-метал, готыку з Расіі і Украіны. Слухаў таксама польскія рок-гурты *Lady Pank*, *Ira*, *KSU*. Найбольш мне падабаўся альбом гітарыста *Lady Pank* Яна Барысэвіча і Паўла Кукіза «Borysewicz — Kukiz» і песня «Bo tutaj jest jak jest». Добра было б, калі б яны абодва найгралі новы альбом, але Кукіз, на жаль, зараз заняты палітыкай. У снежні 2007 года я купіў другую гітару — у чатыры разы даражэйшую за першую. Дапамог мне яе выбраць мой сябра Пятрусь, дарэчы, знакаміты гітарыст. Параіў ён купіць гітару маркі Crafter. Гэта чорная электраакустычная гітара, якая дазваляе запісваць гук адразу на камп'ютар у лічбавай якасці. Потым купіў я дарагі мікрафон да вакалу, міксер. Пры дапамозе сябра-гукарэжысёра стаў я запісваўца ў хаце.

Адносна дзяўчат
Было ў маім жыцці шмат.
Першая спявала ў Каласках,
А апошняя нарадзілася ў Рыбалах.
Жонкай маёй у жыцці стала,
Таму што паэта шчыра пакахала!

## ЖАНР МАІХ ПЕСЕНЬ

Акрэсліў бы я яго лірычным бард-рокам. Спяваю пра каханне, адзіноту. Нездарма зборнік сваіх песень назваў я «Песні як дзяўчаты», таму што жанчыны гэта маё найбольшае натхненне. Зараз маёй музай, вядома, з'яўляецца жонка. Маім узорам сталі песні Эдуарда Акуліна, хаця мне не раўняцца да знакамітага беларускага барда. У Эдуарда Акуліна вельмі выдатныя песні. Я вельмі люблю яго тэмбр вакалу, як іграе на гітары, а таксама музыку і тэксты песень. Тэматыка песень Акуліна гэта мой узор. З польскіх люблю Северына Краеўскага і Анджэя Пясэчнага, а з рускіх — рок-групу *Ключи* і групу *Любэ*, з украінскіх — гурты *Плач Еремії* і *Скрябін*. З беларускіх мне блізкая па душы творчасць Зміцера Вайцюшкевіча. Дарэчы, я ў яго ўзяў інтэрв'ю. Гэта сапраўды вельмі цікавы чалавек. Асабліва альбомы «Паравіны года», «Месяц і сонца» ці «Паравоз кахання» *WZ Orkiestry* мне самыя блізкія.

## МАЁ МЕСЦА Ў МУЗЫЦЫ

На самым канцы, таму што я аматар. Як да гэтай пары, я не выдаў прафесійнага альбома. З'явіўся я ў музыцы як аўтар тэкстаў чатырох песень беларускага гурта *Viesna*: «Беластоцкая зямля», «Не магу без цябе жыць», «На забаву час» і «Купальскі вяночак». Песні былі змешчаны на альбоме «Раз, два, тры» гурта *Viesna*, выпушчаным пад лейблам Folk Music у 2010 годзе. *Viesna* хацела купіць у мяне яшчэ адну песню «Шукаю цябе», але добра, што я яе не прадаў. Гэтую песню запісаў я ў 2001 годзе ў жанры беларускай танцавальнай музыкі. Песня мае скромную аранжыроўку, мой тэкст, маю музыку і вакал. Мой знаёмы, які мае прафесійную студыю, кажа: «Дазволь, што з гэтай песні зраблю хіт!». Калі ён «заспяваў» мне амаль дзве тысячы злотых за прафесійную аранжыроўку і прафесійны запіс майго вакалу, дык я адмовіўся, таму што ў мяне такіх грошай проста не было. Мой зямляк Сцяпан Копа якімсьці цудам здабыў мае песні (відаць, ад Кацярыны Алексяюк) і сказаў, што я зусім не маю таленту і каб гэтым я не займаўся. Мая сяброўка Моніка з часоў жыцця ў інтэрнаце па вуліцы Кракаўскай, упершыню пачуўшы мае песні, сціснула мне рукі і сказала: «Юрка, калі будзеш вядомым, не забудзь пра мяне!». Я вядомым не стаў, але і не забыўся пра Моніку і Марту, якія таксама ігралі на гітарах, а Марта самастойна пісала песні. Моніка выйшла замуж і мае дачушку, а Марта жыве ў Галандыі. Я вельмі любіў іх наведваць у пакоі 325 у інтэрнаце на тым самым трэцім паверсе. На жаль, разбурылі інтэрнат. Мой сябра з Саколкі Марцін, які здымаў са мною кватэру, раз сказаў: «Юрка, не гневайся, што без тваёй згоды я перапісаў твае песні на дыск з твайго камп'ютара, таму што мне падабаюцца». Я, вядома, не гневаўся, а нават усцешыўся, што нехта іх слухае. Я заўважыў, што асабліва людзям, якія любяць рок-музыку, мае песні блізкія. У 2008 годзе ўпершыню я зайграў дзве свае песні перад публікай у гімназіі ў Орлі. Выступленне мне зусім не падабалася, а хваляванне ды стрэс перамаглі мяне. Думаю, што ні вучням ні настаўнікам з Орлі не падабалася маё выступленне.

## МАЯ ГАЙНАЎКА

Аднак Гайнаўка — мая любімая беларуская Гайнаўка (я нарадзіўся ў гайнаўскай бальніцы) — запрасіла мяне і ў лістападзе 2010 года я амаль тры гадзіны іграў свае песні перыяду 1996-2010 гадоў. У Гайнаўскім белліцэі ігралася і спявалася мне вельмі лёгка і так натхненне мяне панесла, што я не заўважыў, як мяняліся класы. Я іграў, іграў, іграў свае песні для маладых белліцэістак, а яны слухалі... Ну што ж я зраблю, што хаця вельмі кахаю пісаць новыя песні, спяваць свае беларускія песні і іграць на гітары дык заўсёды буду Юркам Буйнюком і толькі вечна маладым паэтам і толькі аўтарам зборнікаў паэзіі «Субота ў Маліннікаў», «Самота дажджу» ці «Непаўторнасць хвілін». Паэт, але з гітарай!

Гэта не сакрэт,
Хаця я паэт,
Музыка мая любоў,
Ад малых гадоў!

1 ☞ працяг

# Не піралізе гумы

**Яўген Масальскі**, які жыве на ўскраіне Гайнаўкі поблізу планаванай інвестыцыі піролізу гумы, пакрытыкаваў намер размяшчэння яе побач Белавежскай пушчы. Солтыс Ліпін **Алімпія Балтрамюк** звярнула, між іншым, увагу на адмоўнае ўздзеянне планаванай інвестыцыі на развіццё турызму ў рэгіёне і на актыўнасць мясцовага насельніцтва ў галіне агратурызму. Солтыс Вялікіх Пасечнікаў **Адам Красько** пытаў, як інвестар хоча забяспечыць вялікую колькасць шын, каб у выпадку пажару не пашкодзілі яны навакольнаму асяроддзю і здароўю мясцовага насельніцтва, паколькі ў час поўнага ходу прадпрыемства перараблялася б па 14 тысяч тон зношаных шын за год. Спытаў ён таксама, па якіх дарогах прывозіліся б шыны ў прадпрыемства, паколькі ў наваколлі Дубіч няма дарог прыстасаваных для перавозу вялікіх грузаў, а існуючыя дарогі могуць хутка знішчыцца. Гмінная радная **Кацярына Якубоўская** з Ліпін звяртала ўвагу на намаганні мясцовага насельніцтва па абмежаванні забруджвання асяроддзя, што можа звесці на нішто планаваная інвестыцыя. Астатнія асобы таксама звярталі ўвагу на тое, што ў краіне часта гарэць звалкі смецця і зношаных шын ды пыталі пра забеспячэнне перад такімі пажарамі. Пыталі таксама, дзе найбліжэй знаходзіцца прадпрыемства піролізу гумы, каб можна было на



■ Солтыс Дубіч-Асочных Барбара Галёнка (стаіць; направа ад яе сядзіць солтыс Вялікіх Пасечнікаў Адам Красько)

практыцы пераканацца, як яно дзейнічае. У ходзе дыскусіі выявілася, што былі спробы размясціць падобныя прадпрыемствы побач Цеханоўца і на тэрыторыі Бельскай гміны, але паколькі інвестыцыі былі там планаваны на гмінных грунтах, не было згоды самаўрадаў на продаж або арандаванне іх інвестару. У выпадку Гайнаўскай гміны інвестар хоча арандаваць прыватны ўчастак плошчай больш за 4 гектары пад будову прадпрыемства піролізу гумы. Сабраныя звярталі таксама ўвагу, што інвестыцыя будзе пагражаць птушкам і рэдкім відам раслінасці ў наваколлі Хітрай і ўвогуле ў Белавежскай пушчы. Побач Хітрай ляжыць тэрыторыя, ахопленая еўрапейскай праграмай аховы прыроды «Натура-2000» і праходзяць два калідоры пералёту птушак, якіх жыве тут больш за 40 відаў.

— Я вельмі рада праведзенаму адміністрацыйнаму разбору, паколькі ў яго ходзе былі выказаны новыя заўвагі наконт пагроз ад прадпрыемства піролізу гумы. Усе пытанні і заўвагі былі запісаны і будуць перададзены інвестару, ад якога будзем чакаць адказу, — заявіла войт Гайнаўскай гміны **Люцына Смактуновіч**.

У кансультацыях у Хітрай прысутнічалі таксама старшыня Рады Гайнаўскай гміны **Яраслаў Кот** з Ліпін і віцэ-старшыня Рады **Валянціна Бірылка** з Новаберазова, гмінныя радныя і солтысы вёсак Гайнаўскай гміны. Павятовая санэпідстанцыя ў Гайнаўцы і Рэгіянальная дырэкцыя аховы асяроддзя ў Беластоку ў ліпені павінны прыняць сваю пазіцыю ў справе намеру адкрыць прадпрыемства піролізу гумы паміж Дубічамі і Хітрай. Будуць гэта рабіць на падставе аналізу ўздзеяння піролізу гумы на навакольнае асяроддзе, якое выканаў інвестар і на аснове папаўнення гэтага аналізу, якое дадаткова мае выканаць таксама інвестар. Канчатковае рашэнне даць або не даць згоду на дзейнасць прадпрыемства піролізу гумы побач Дубіч-Асочных будзе прымаць войт Гайнаўскай гміны.

PS. У панядзелак, 1 ліпеня г.г., у лакальнай прэсе з'явілася інфармацыя, што войт Гайнаўскай гміны прыняла рашэнне, якое забараняе пабудову прадпрыемства піролізу гумы побач Дубіч-Асочных.

Тэкст і фота
**Аляксея МАРОЗА**

---



Лявон Цімохін
Паэтычны блог

Зорны Коннік Пераклады Вершы Дапамагчы аўтару

## http://lyavon.by

Паэт з Маладзечна Лявон Цімохін, магчыма, не вядомы ўсім аматарам беларускага паэтычнага слова. Разам з тым гэты чалавек даўно рупіцца на літаратурнай ніве. Каб у гэтым упэўніцца, дастаткова „закінуць" яго імя і прозвішча ў любы пашукавік. Мы знойдзем мноства розных інтэрнэт-рэсурсаў, дзе месціцца яго творы. Разам з тым Лявон Цімохін мае і свой сайт, на якім прадстаўлены не толькі вершы паэта, але і пераклады.

Калі цікаўны карыстальнік набярэ на сваім камп'ютары адрас у інтэрнэце **https://lyavon.by**, то перад яго вачыма адкрыецца выява даволі сціплага сайта. „Лявон Цімохін. Паэтычны блог" — такі надпіс знаходзіцца ўверсе галоўнай старонкі побач з партрэтам літаратара. Там жа адразу можна пабачыць выяву Божай Маці, якая размешчана над першым вершам. Ён прысвечаны Беларусі і змяшчае такія радкі: „Край шчаслівы і гаротны:/ Зорным небам так нам родны/ Край с душой асірацелай,/ З сцягам бела-чырвона-белым,/ З божым вобразам у хатах,/ Край гаротных небагатых/ З мрояй аб Святой Свабодзе/ Што здаўна жыве ў народзе".

Па гэтым вершы відаць, што паэту блізкая да душы нацыянальная сімволіка, якая перастала быць дзяржаўнай пасля інспіраванага лукашэнкаўскай уладай рэферэндуму 1995 года.

Адгукнуўся Лявон Цімохін сваім вершам і на красавіцкія падзеі ў Курапатах, дзе падчас сталінскіх рэпрэсій былі забіты тысячы і тысячы людзей, а цяперашнія ідэйныя нашчадкі бальшавікаў катаў знішчалі ўсталяваныя там памятныя крыжы. „Нам — людзям вельмі хочацца любіць,/ А нелюдзь моцна прагне ненавідзець,/ Крыжы ламаць і забіваць і біць.../ Да тых часоў: пакуль Збавіцель прыйдзе!// А людзі вельмі хочуць працаваць,/ Кахаць, у праўдзе жыць, не крыўдзіць!/ А нелюдзь прагне хітраваць-ілгаць.../ Да тых часоў пакуль Збавіцель прыйдзе!" — гаворыцца ў вершы.

Згодна з тэмамі твораў, размешчаных на сайце, бачна, што для Лявона Цімохіна найбольш важнымі з'яўляюцца Беларусь і хрысціянская вера. Так, у рубрыцы „Пераклады" мы можам пабачыць пераклад псалма „Ерусалім". Праўда, ён зроблены з рускай мовы, якая гучыць з размешчанага побач відэа. „Там каля рэк Вавілонскіх/ Жыву я адзінаю памяццю./ Хай захлынуся, аслепну!/ Калі пазабуду калі-небудзь:/ Камяні ў жудасным полымі,/ Руіны з каменняў Тваіх", — пераклаў Цімохін.

„Гэты паэтычны альбом выдадзены для маіх сяброў, наперакор усяму, для ўсіх, каго маю, дзякуй Богу, багата па ўсёй Беларусі і ў свеце. Памятаю і люблю ўсіх вас. Мы верым, што з намі Бог!" — кажа ў рубрыцы „Зорны коннік" аўтар вершаў і ўладальнік сайта. Там жа мы можам пабачыць пералік твораў, змешчаных у паэтычным блогу. Яны падзелены тэматычна на раздзелы „і ўгледзеў я неба расчыненае...", „Так Бог прыходзіць...", „Вяртанне", „Сенажаць мая над рэчкай...", „Чаго ты плачаш, каго шукаеш?", „Я сэрца слухаю ўдары...", „Ценям Касцюшкі".

Вельмі дзіўна, але на сайце чамусьці не ўдалося адшукаць аднаго з перакладаў, якім Лявону Цімохіну варта ганарыцца. Гэта пераклад на беларускую мову гімн Украіны. Прычым маладзечанскі паэт першым з беларусаў пераклаў яго яшчэ ў 2005 годзе. Пра гэта распавядаецца ў газеце Таварыства беларускай мовы „Наш час".

**Аляксандр ЯКІМЮК**

---



Дата з Календара Дата з Календара Дата з Календара Дата з Календара Дата з Календара

# Сто гадоў з часу адкрыцця
## Навагрудскай беларускай гімназіі

Навагрудская беларуская гімназія была адкрытая 25 траўня 1919 г. Першым яе дырэктарам бацькамі дзяцей быў абраны Ян Цеханоўскі, ураджэнец Гомельшчыны, большая частка жыцця якога прайшла ў Заходняй Беларусі. Спярша гімназія не была цалкам беларускамоўнай, таму кіраўніцтва вяло гуманітарны кірунак, асноўная ўвага надавалася вывучэнню моў. Акрамя беларускай і польскай выкладаліся французская і нямецкая. Лацінская мова вывучалася факультатыўна. Паступова ў гімназіі пачалі павялічваць матэматычна-прыродазнаўчыя прадметы дзеля патрэб сялянскай гаспадаркі, адкуль паходзіла большасць гімназістаў. Тэрмін навучання складаў восем год.

На пачатку гімназія не мела свайго будынка, заняткі праходзілі ў габрэйскай школе. Габрэі вучыліся раніцай, беларусы — пасля абеду. Пры гімназіі працавалі мастацкія гурткі розных кірункаў: танцавальны, літаратурны, драматычны. Асаблівую папулярнасць здабылі харавы і музычны, якімі кіраваў Антон Валынчык, ураджэнец Слонімшчыны. Дзейнічалі спартыўныя секцыі па лёгкай атлетыцы, футболе, боксе, лыжах.

Вельмі добрае стаўленне да беларускай гімназіі былі ў навагрудскага ваяводы Зыгмунта Бэчковіча, які пазней стаў віленскім ваяводам. Паводле Барыса Кіта „ён адзін з першых польскіх лібералаў зацікавіўся беларускай справай і хацеў дапамагчы беларусам, каб вырваць іх з-пад камуністычнага ўплыву. Нават прыходзіў да нас у гімназію інспектаваць нашу дзейнасць. Пазней ён дапамог атрымаць ёй дзяржаўныя правы". Польскай дзяржавай выплачваліся заробкі толькі чатыром з двух дзясяткаў настаўнікаў. Гэтыя чацвёра, у ліку якіх доктар Аляксандр Орса, дзялілі свае грошы на ўсіх калегаў.

19 верасня 1929 г. у Навагрудку з удзелам прэзідэнта Польшчы Ігнацы Масціцкага па-польску і па-беларуску агучылі акт аб будаўніцтве беларускай школы. Будаўнічую пляцоўку асвяціў праваслаўны епіскап Аляксей. Прэзідэнт Масціцкі ахвяраваў на будаўніцтва 2000 злотых. У гімназіі настаўнікамі працавалі такія вядомыя асобы як Аляксандр Данілевіч, Аляксандр Орса, Язэп Драздовіч, Міхал Чатырка, Пётр Скрабец, Антон Валынчык. Са сцен гімназіі выйшла многа вядомых беларускіх дзеячаў.

У чэрвені 1934 г. улады Польшчы абвясцілі пра закрыццё беларускай гімназіі ў Навагрудку. Навучэнцам прапанавалі далей вучыцца ў мясцовай Польскай гімназіі імя Адама Міцкевіча. Каля 80 працэнтаў вучняў, аднак, вырашылі працягваць вучобу ў Віленскай беларускай гімназіі. Адразу пасля закрыцця гімназіі ў Навагрудку з Вільні прыехаў Барыс Кіт. Ён наладзіў пераезд гімназістаў у Вільню, размяшчэнне ў інтэрнаце беларускай гімназіі. У 1939 г., дзякуючы намаганням Кіта, гімназія зноў пачала працу. У Навагрудак былі перавезены вучні Віленскай беларускай гімназіі, якую пачалі ціснуць літоўскія ўлады. Былі адчынены 10 інтэрнатаў для юнакоў з далёкіх вёсак. Побач была заснавана другая — сямігадовая беларуская школа. З Вільні быў перавезены нават аркестр. Але выкладчык Панько данёс у адміністрацыю, што Барыс Кіт з'яўляецца беларускім нацыяналістам. Новым дырэктарам быў прызначаны Фелікс Баржэмскі з савецкага Мінска. Кіту прызначылі месца намесніка.

Праца гімназіі працягвалася і пад нямецкай акупацыяй. Зараз у будынку гімназіі знаходзіцца сярэдняя школа № 1. У будынку школы ў 2008 годзе адкрыты музей Барыса Кіта, у якім экспануюцца матэрыялы, што датычаць і гісторыі самой гімназіі. На фасадзе — шыльда ў гонар Кіта.

**Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

На фота: Фасад гімназіі сёння

Віктар Швед

## Без пахмелля

*Міхасю Хмялеўскаму*

Яшчэ, мой Дружа, мы жывем
І нат не думаем аб смерці.
Песню вясёлую спяем
Надта жыццёвую, ад сэрца.

Нам кажуць лекары хадзіць
Пастаянна, надта многа.
Ды што нам сапраўды рабіць,
Як адмаўляюць працы ногі?

Як дзеці мы ужо зусім
І жыць не можам без апекі.
А каб жыццёвы быў уздым
Глытаем прыгаршчамі лекі.

І мы блытаемся як цень
У сваіх хатах з сумам яркім.
Нават у Нараджэння Дзень
Забараняюць выпіць чарку.

А можа у жыцця падзей
Мы будзем сапраўды багаты
І адсвяткуем юбілей
У годзе дзевяноста пятым!

**Беласток, 26 чэрвеня 2019 года.**

Галоўнае праўленне
Беларускага грамадска-культурнага таварыства ў Польшчы
і Белавежскі асяродак культуры

запрашаюць на

# “К У П А Л Л Е”

06.07.2019 г. 21⁰⁰ г.
Белавежа – амфітэатр

**У праграме:**

- купальскі карагод
- урачыстае адкрыццё
- канцэрт у выкананні калектываў з Польшчы і Беларусі
- абрадавая частка
- забава

Зрэалізавана дзякуючы датацыі Міністра ўнутраных спраў
і адміністрацыі

# Засуха

Цяжкім сёлета будзе год для селяніна. Халоднае веснавое надвор’е ды працяглая летняя засуха адмоўна паўплывае на ўраджай. Гэта ж самае тычыцца агароднікаў і садаводаў. Цэны агародніны напрадвесні былі значныя. Ды і зараз з кожным днём усё даражэе. За бульбу я некалькі дзён таму плаціў 2,99 зл. за кілаграм, за галоўку капусты 3,99 зл., а квяцістай капусты — на залатоўку даражэй. За паўкілаграмовы бохан кляшчэлеўскага «бальтаноўскага» трэба заплаціць 2,59 зл. Павышаюцца цэны газу і электраэнергіі. Не гавару пра лякарствы. Правіцелі гавораць, што паклапаціліся аб бясплатныя лякарствы для сеніёраў. Праўда, паклапаціліся, але пра таннейшыя. Сродкі масавай інфармацыі амаль штодзень паведамляюць аб збіранні грошай на лячэнне працяглай хваробы таго ці іншага дзіцяці, бо НФЗ не кампенсуе такога медыкамента. А колькі грошай у год паступае на абсталяванне шпіталяў ды лячэнне ад Вялікага аркестра святочнай дапамогі Ежы Оўсяка, Фонду Польсата ды іншых? Гэта не лічыцца? Хачу зараз спытаць прэм’ер-міністра, што з абяцанкай 500+ для інвалідаў з абмежаваннямі. Чакаеце бліжэйшага тэрміну да выбараў, як гэта было з трынаццатай палучкай для пенсіянераў, каб распаўсюджваць на чатыры бакі свету, што гэта падарунак ад прэзаса? Да выбараў засталося няшмат часу. Ці суверэн надумаўся, пры якім прозвішчы паставіць крыжык? Няцяжка зараз здагадацца, хто пераможа на асенніх выбарах. Багацейшы, значыць, Права і справядлівасць. У іхніх руках і грошы, і ўся ўлада. Банкі і ... «справядлівасць». Толькі скажыце, даражэнькія, аб якой справядлівасці гаворым.

**Уладзімір СІДАРУК**

## Пусцілі поезд у Семяноўку

Многа гадоў прайшло з таго часу, як перастаў ездзіць пасажырскі поезд з Гайнаўкі ў Семяноўку цераз Плянту. У Плянце ліквідавалі пачакальню ды і некаторыя пуці.



І вось на вакзале ў Плянце павесілі расклады язды пасажырскіх паяздоў. Летам поезд будзе ездзіць тры разы ў дзень па пятніцах, суботах і нядзелях. З Плянты (тут была і ёсць дошка з надпісам NAREWKA) поезд-рэйкабус ад’язджае ў 4:58, 12:46 і 16:19. Фотаздымак я зрабіў 29 чэрвеня гэтага года.

Тэкст і фота **Янка ЦЕЛУШЭЦКІ**

# Адгаданка

**Шыфраграма**

Літары адгаданых слоў, перанесеныя згодна з іх парадкавымі нумарамі ў клеткі роспісу, складуць рашэнне — беларускую пагаворку.

1. сын прадзеда = 20 _ 21 _ 22 _ 12 _;
2. маці казляняці = 9 _ 10 _ 17 _ 13 _;
3. Нэлі, алімпійская чэмпіёнка па гімнастыцы з Мексікі і Масквы = 6 _ 4 _ 11 _;
4. нутраны тлушч = 14 _ 18 _ 19 _;
5. частка дуды з паветрам = 5 _ 15 _ 3 _;
6. пчаліная сям’я = 7 _ 8 _ 16 _;
7. зборнік вершаў Міколы Гайдука = 1 _ 2 _ 23 _.

(ш)

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | | 1 | 2 | 3 | 4 | 5 |
| | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 |
| | | 12 | 13 | 14 | 15 | 16 |
| 17 | 18 | 19 | 20 | 21 | 22 | 23 |

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 23 нумара**

Вочы, ён, жоўць, конь, крывіч, куль, Куяба, сківіца.

Рашэнне: **Колькі вяровачку ні віць, а ўсё ж канчыку быць**.

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва”.
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Spraw Wewnętrznych i Administracji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі”:** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Уршуля Шубзда, Міраслава Лукша, Аляксей Мароз, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Юрка Ляшчынскі, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk”, Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy” prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH” na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH”), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „KOLPORTERA” oraz „GARMOND PRESS”, siedziba redakcji „Niwy”.
**Prenumerata krajowa**
„POCZTA POLSKA”, „KOLPORTER”, „RUCH” — kwartalna 32,50 zł., półroczna 65 zł., roczna 130 zł.
Redakcja „Niwy” — kwartalna 60 zł., półroczna 120 zł., roczna 240 zł.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER” na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach 7⁰⁰ – 18⁰⁰.

**Wpłaty na wysyłkę z redakcji przyjmuje:
Rada Programowa Tygodnika „Niwa”,**

BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
**Nakład:** 1 000 egz.

# 07.07 — 13.07

**(22.03. — 20.04.)** Да спраў падыдзеш з дыстанцыяй і гумарам. Можаш перамагчы крызіс у пары. З 12.07. можаш натрапіць на працаўніка, з якім цяжка будзе даць рады. 8-14.07. твой апетыт на любоўныя прыгоды будзе немалы. 7-10.07. выберыся ў шалёнае падарожжа. На працы 7-11.07. магчымыя перашкоды, але не выб’юць цябе з рытму.

**(21.04. — 21.05.)** Час спрыяе неабавязваючым фліртам і раманам. Ды ты ўсё незадаволены ўласнымі дасягненнямі; празмернасць амбіцый. Не перацэньвай свайго шчасця і не правакуй лёсу!

**(22.05. — 22.06.)** Лёгка распазнаеш інтэнцыі іншых. Цудоўная фантазія, моцная інтуіцыя і ўражлівасць. Да 7.07. нецярплівасць, эксцэнтрычныя задумы і спешка могуць быць тваёй згубай! Не бярыся за тое, што патрабуе дакладнасці і цярплівасці. З 8.07. лішак спрыту можа табе зашкодзіць (могуць назваць цябе круцялём, для якога лічацца толькі ўласныя інтарэсы).

**(23.06. — 23.07.)** Нагоды для адраджэння і пачацця ўсяго нанова. З 10.07 (аж да 26.07.) тваім козырам будуць інтэлігентнасць, ззянне, дасціп, умеласць паразумецца з усімі. Толькі не інтрыгуй і не выяўляй тайнаў асобам, якім не трэба давяраць (неасцярожнасць можа прынесці табе праблемы на працы).

**(24.07. — 23.08.)** Момантамі захочацца табе пабыць у самоце. На працы не рабі нічога праз сілу, каб не нарабіць памылак. Можаш быць аслаблены і знеахвочаны. Выберыся ў ціхае месца ў адпачынак.

**(24.08. — 23.09.)** Да 7.07. не давай веры салодкім слоўцам, зважай таксама на тое, што сам гаворыш (можаш скампраметавацца!). Да 8.07. нахлыне на цябе творчы настрой і створыш тое, чым будзеш ганарыцца. З 8.07. могуць праследаваць цябе апантаныя думкі; не выкарыстоўвай свае пазіцыі і ўлады

**(24.09. — 23.10.)** Да 8.07. будзеш больш адважны, схільны да рызыкі ў справах, якіх іншыя не пяройдуць. Вельмі добра на працы. Не ідзі на «латвізну». Твая сітуацыя папраўляецца дзень за днём.

**(24.10. — 22.11.)** Маеш сільна ўвядзенне такіх змен, што іншыя аж вырачаць вочы! 8-12.07 — клопаты ў інтарэсах, цяжкасці з курсам дзеянняў, за непаслядоўнасць можаш горка заплакаць. Новаму пачуццю аддасіся з палам.

**(23.11. — 22.12.)** Выкараскаешся з усіх клопатаў ды яшчэ і іншым паможаш — на пачатку тыдня. 7-11.07. не глядзі праз пальцы на праблемы — празмерная ўпэўненасць і бравурнасць могуць кончыцца як не катастрофай, дык пякучай паразай!

**(23.12. — 20.01.)** Твой партнёр можа зрабіць такое, да чаго ты не падрыхтаваны. 8-12.07. нішто не стрымае цябе ад рэалізацыі намераў. Будзеш моцны і энергічны, да таго будзеш трымаць сябе ў руках. У пачуццях вер сваёй інтуіцыі.

**(21.01. — 19.02.)** Да 10.07. маеш шанц пазнаёміцца з кімсьці цікавым. Добры момант пачаць лячэнне. Будзеш уражлівы на красу другога полу. Да 7.07. нервовасць, спешка, незразумелыя паводзіны. Ды ўвесь месяць будзеш мець шчасце.

**(20.02. — 21.03.)** Да 08.07. маеш знакамітае адчуванне сітуацыі. Не звядуць цябе абяцанні, выйдзеш з кожнай кабалы. Не расчаруешся ні ў сябрах, ні ў сваёй інтуіцыі. Пачуццё бухне як вулкан! Толькі не пазычай грошай!!!

**Агата АРЛЯНСКАЯ**



# На Міжземным моры

Спрадвечна адзіная дарога на Кіпр вяла па марскіх хвалях. Зараз гэта памянялася і, здаецца, больш народу падарожнічае на Кіпр паднебнымі шляхамі. На востраве тры аэрадромы: у Пафасе на захадзе, у Нікасіі ў цэнтры і ў Ларнацы на поўдні. Аэрадром у Нікасіі закрыты з 1974 года, калі побач яго пралягла дэмаркацыйная лінія, за якой тэрыторыя захопленая туркамі. Але і марскія гавані прапануюць таксама ахвотным свой транспарт.

У Ларнацы цікавы наведвальнік можа забрацца на невялікую маторную лодку з акном у дне і прагуляцца на ёй побач горада. Атракцыёнам там лічыцца затопленыя на подступах да гавані каркас карабля. 7 ліпеня 1980 года паром „Зенобія", які ў свой першы рэйс вёз са Швецыі ў Сірыю 104 начэпы, пайшоў на дно менавіта каля Ларнакі; людзей удалося своечасова эвакуіраваць. Лічыцца, што віноўнікам катастрофы была камп'ютарная праграма кіравання караблём, якая няправільна ацэньвала баласт груза. Нядаўна праграма бартавога камп'ютара была прызнана віноўнікам катастрофы эфіопскага самалёта ў сакавіку г.г.

Слоў пару яшчэ пра весткі кіпрскага паходжання, якія нядаўна прабіліся на перадавыя сусветных навін. Менавіта на днях быў вынесены сямікратны пажыццёвы прысуд тамашняму злачынцу, які на момант разгляду справы задушыў сем жанчын: чатыры з Філіпін, дзве з Румыніі і адну з Непала. Зараз на Кіпры шмат людзей з замежжа, якія туды едуць за працай; мяркуецца, што зараз яны складаюць пятую частку насельніцтва грэчаскай часткі Кіпра. Шмат, менавіта, бачыцца філіпінак, якія там працуюць гаспадынькамі; відаць там таксама шмат маладых людзей з Індыі. Гэтых людзей з далёкіх краін пазнаецца па іх выглядзе. Складана пазнаць гастарбайтараў з Еўропы, але і такія ёсць; у вітрыне аднай крамы ў цэнтры Ларнакі прапанаваўся *български хляб* запар з курсамі грэчаскай мовы для балгараў. А ў іншай вітрыне ўбачыў я смятану і ёгурт з нашай падляшскай Млекавіты...

Пры нагодзе слоў пару пра харчаванне, хаця ў маім меню было ў прынцыпе толькі *суўлакі*. Асновай гэтага смакоцця — плоскі хлябок *піта*. Назва амаль супадае з папулярнай у нас італьянскай піцай. І, як мне здаецца, невыпадкова. Бо піта гэта ні менш, ні больш, толькі аснова піцы. У піцы хлябок запякаецца разам з рознымі дадаткамі. У суўлакі тыя дадаткі — грыляванае мяса, сырая гароднiна і бульбінкі фры з соўсам — загортваюцца менавіта ў той хлябок, як у ражок з паперы. І піца, і піта, гэта кулінарныя выдумкі Міжземнага мора, толькі італьянцы і грэкі па-рознаму іх скарысталі.

Пляж у Ларнацы мае каля кіламетра працягласці; называюць яго пляжам Макензі. Назва пайшла ад брытанца Макензі, які ажаніўся з мясцовай дзяўчынай, пабудаваў побач пляжа дом і там жыў. Уздоўж пляжа — праменад Фінікудас; назва выводзіцца ад фінікавых пальмаў, якія былі там пасаджаны ў 1920-х гадах. І невялікія абтрэсіны з гэтых пальмаў плаваюць пры самім беразе, але далей мора чыстае і да некалькіх дзясяткаў метраў даволі мелкае, як у пагаворцы: мора па калені, нават цвярозым... За праменадам — праспект Афіны, а яго прадаўжэннем у напрамку аэрадрома з'яўляецца вуліца Піяле-Паша. Піяле-Паша быў турэцкім ваеннакамандуючым, які захапіў Кіпр у 1571 годзе. Нягледзячы на грэцка-турэцкія не надта прыязныя адносіны, грэчаскія жыхары Кіпра не памянялі назвы вуліцы калісь-калісь названай у ягоны гонар. З тамашняй тапанімікі заўважыў я і Сталінградскую вуліцу; мабыць на Кіпры не дадумаліся ўстанавіць міністэрства праўды, як гэта зроблена ў нас...

Недалёка Еўрапейскай плошчы Ларнакі, яхтавай гавані і пляжа, прыцягвае зрок мінорнаколерны бронзавы помнік.



Вуліца ў Ларнацы



Скульптура на Еўрапейскай плошчы Ларнакі



Помнік армянскаму бежанству 1915 года




Сталінградская вуліца ў Ларнацы

Гэта помнік армянскаму бежанству 1915 года, калі армяне пакідалі сваю айчыну на ўсходзе сённяшняй Турцыі ўцякаючы перад смерцю ў рамках турэцкіх этнічных чыстак; частцы армянскіх уцекачоў удалося прабрацца на Кіпр, які быў у той час пад брытанскім панаваннем.

А недалёка згаданай раней Сталінградскай вуліцы, якая па сутнасці з'яўляецца адно кароткай вулачкай, знаходзіцца царква Панагія Фанерамені (царква Адкрыцця Багародзіцы). Гэта па сутнасці крыху большы комплекс, які ахоплівае так старэйшую царкву, узведзеную ў пачатку XX стагоддзя на месцы ранейшай візантыйскай царквы, а таксама больш новую царкву, узведзеную побач для ўзбуйнелай колькасці вернікаў; магчыма, што ад перасялення іх з занятай туркамі паўночнай часткі выспы. Пад старэйшай царквой знаходзяцца катакомбы, а ў іх старажытны саркафаг з астанкамі нейкай знатнай асобы, магчыма, фінікійскага вяльможы. Меншая старая царква разам з катакомбамі лічыцца цудоўным месцам, дзе тройчы абышоўшы царкву і пакінуўшы стрпкі вопраткі ці клочкі валасоў знімаюцца галаўныя болі ды іншыя нямогласці. Сюды таксама падаюцца паломніцы, якіх мужы або кавалеры знаходзяцца ў далёкім плаванні, і моляцца за іх бяспечнае вяртанне дадому.

Калі пра цэрквы гаворка, то варта яшчэ згадаць пра царкву Дзевы Марыі Хрысапалітысы (Золатаграднай). Узведзена яна была ў сярэднявеччы і перабудавана ў 1760-х гадах. Сваю назву ўзяла ад месца, якое некалі называлася залатым месцам, бо там была раней старажытная некраполія багатых вяльможаў са шматлікімі залатымі вырабамі ў саркафагах. Недалёка яе знаходзіцца сядзіба мітрапаліта і сабор Праабражэння Гасподняга.

Хопіць пра ларнакскія цэрквы, цяпер слоў пару пра каталіцкі касцёл, які знаходзіцца недалёка двух толькі што згаданых праваслаўных храмаў. Касцёл Дзевы Марыі Ласкавай пабудавалі французсканцы, якія прыбылі на Кіпр у 1593 годзе. Першы касцёл неўзабаве ўстарэў і ў 1724 годзе на яго месцы быў узведзены новы. Але і той не надта доўга нёс сваю місію і ў 1840-х гадах на яго месцы быў пабудаваны новы храм, які трымаецца да сённяшняга дня. Зараз аснову ягоных вернікаў складаюць згаданыя раней філіпінскія дзяўчаты.

У цэнтры горада будынак каталіцкага жаночага кляштара сясцёр юзафітак, заснаванага французскімі місіянеркамі ў 1844 годзе дзеля дапамогі хворым на тыф, халеру і дызентэрыю. Пазней манашкі займаліся не толькі апекай над нямоглымі, але і вялі адукацыйную дзейнасць да апошніх дзесяцігоддзяў XX стагоддзя. Зараз сёстры апякуюцца галоўным чынам пражываючымі на Кіпры іншаземкамі.

У Ларнацы ёсць і храмы іншых найменаванняў, у тым ліку армянскі і англіканскі; пра сінагогу і мячэці было раней.

Па ўсёй кантынентальнай Еўропе прыняты правабаковы дарожны рух, але на выспах справы маюцца інакш. Паколькі Кіпр да 1960 года быў пад брытанскім панаваннем, то там і асталася такая ж арганізацыя дарожнага руху як і ў Вялікабрытаніі, значыць левабаковая. Гэта спачатку крыху збівае з панталыку гасцей з кантынента, прывыклых перасякаць вуліцы спярша гледзячы ўлева. А з ходам часу прывыкаецца да гэтага, але вярнуўшыся *восвояси* трэба зноў ад гэтага адвыкаць. Да гэтага варта дадаць, што левабаковы рух быў значна пашыраны і ў кантынентальнай Еўропе — ён пачаў тут згортвацца пасля Першай сусветнай вайны. А ў Аўстрыі і Чэхаславакіі быў уведзены пасля іх аншлюса Германіяй напярэдадні Другой сусветнай вайны.

Да гэтага яшчэ на ларнакскіх скрыжаваннях святлафоры падаюць сігналы ў прынцыпе толькі самаходам, а пешаход мусіць мазгаваць сам, як дастацца на другі бок вуліцы; у нас і пешаходам падаецца зялёнае святло. І часта здаралася мне слухаць клаксонавых дакораў ад тамашніх вадзіцеляў. У старой частцы Ларнакі вуліцы вузкія, яшчэ з даўніх пор, калі шырыня тых вуліц была неабходная толькі для мінання двух наўючаных аслоў. Цяпер на такіх вуліцах няма месца для тратуараў, таму пешаходу трэба быць вельмі насцярожаным.

На Кіпры пашанцавала мне быць у сонечнае надвор'е, дзе каля поўдня сонца літаральна заглядае за каўнер. А багацце сонечнага святла відаць і ў тамашнім гарадскім ландшафце, дзе на дахах будынкаў пастаўлены вялікія бочкі для награвання вады. Сонца, праўда, не дасягае там вертыкалі; да тропіка Рака з Кіпра каля паўтары тысячы кіламетраў — крыху менш чым ад нас да Масквы.

Тэкст і фота
**Аляксандра ВЯРБІЦКАГА**

ISSN 0546-1960